



# Рэгіянальная газета

5 ліпеня 2013 года
№ 27 (949)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.




**Капітан маладзечанскай футбольнай каманды паехаў на заробкі ў Маскву**

22-я старонка



**Як зрабіць сваё жыццё шчаслівым**

23-я старонка



**навіны рэгіёна**

## Змененая структура райвыканкамаў

Ад панядзелка ў райвыканкамах зменена структура і штатная колькасць работнікаў. Змены праведзены ў адпаведнасці з Указам, падпісаным Аляксандрам Лукашэнкам у красавіку. Хто персанальна ўзначаліў новыя, аб'яднаныя падраздзяленні ў нашым рэгіёне?

Згодна з тыпавой структурай райвыканкама, утвораныя новыя аддзелы ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі замест трох асобных адпаведных аддзелаў. З'явіліся аддзелы адукацыі, спорту і турызму, якія аб'ядналі два ранейшыя аддзелы адукацыі і спорту і турызму.

Хто ўзначаліў новыя “аб'яднаныя” аддзелы ў нашым рэгіёне?

**Аддзелы ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі:**

**Астравец.** Сяргей Сяўко. Раней узначальваў аддзел культуры.
**Ашмяны.** Галіна Балінская. Узначальвала аддзел культуры.
**Валожын.** Вікенці Адамовіч. Узначальваў аддзел культуры.
**Вілейка.** Сяргей Паўлоўскі. Узначальваў аддзел культуры.
**Маладзечна.** Аляксандр Рамановіч. Узначальваў аддзел культуры.
**Мядзел.** Галіна Красоўская. Да гэтага часу – першы сакратар райкама БРСМ.
**Смаргонь.** Аляксей Апановіч. Узначальваў аддзел ідэалагічнай работы.

**Аддзелы адукацыі, спорту і турызму:**

**Астравец.** Вакансія.
**Ашмяны.** Святлана Баркоўская. Узначальвала аддзел адукацыі.
**Валожын.** Галіна Сматрова. Узначальвала аддзел адукацыі.
**Вілейка.** Кандыдатура ўзгадняецца ў аблвыканкаме.
**Маладзечна.** Іна Драпеза. Узначальвала аддзел адукацыі.
**Мядзел.** Таццяна Яфімава. Узначальвала аддзел адукацыі.
**Смаргонь.** Валеры Бацько. Узначальваў упраўленне адукацыі.

**Паводле звестак, дадзеных “РГ” у райвыканкамах. Аддзел інфармацыі.**



# Камень “Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі” памяняў месца

**МАЛАДЗЕЧНА. Напярэдадні Дня Незалежнасці ў рэдакцыю “РГ” звярнуўся Леанід Лысакабылка, старшыня культурна-асветніцкага таварыства ўкраінцаў “Краяны”.**

Яго цікавіла пытанне: куды цяпер ускладаць кветкі на свята, калі камень “Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі” перанеслі?

Таварыства ўкраінцаў традыцыйна ўскладае кветкі менавіта да яго. Разам мы прыйшлі да каменя 3 ліпеня. На помніку добра відаць трэшчыну, а сам камень заўважна пасвятлеў – яго паверхню апрацавалі.

– Вельмі добрае месца для валуна абралі, – заўважыў спадар Леанід. – Спадзяюся, ён застанецца тут назаўсёды.

Цягам 3 ліпеня яшчэ некалькі чалавек прынеслі кветкі да помніка.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

**Працяг тэмы чытайце на 3-й старонцы.**




Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

**Леанід Лысакабылка (на фота), старшыня маладзечанскага культурна-асветніцкага таварыства ўкраінцаў "Краяны", ускладае кветкі да абноўленага помніка “Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі” ў Дзень Незалежнасці, 3 ліпеня.**

УРАЧЫСТАСЦЬ

# *Айцец Віктар:* “Абраз Маці Божай Будслаўскай чакае кожнага”

## Сёлета адзначаюць 400-годдзе знаходжання абраза ў Будславе

**МЯДЗЕЛ. Як і штогод, напачатку ліпеня вёска Будслаў стане месцам прыцягнення для тысяч і тысяч вернікаў.**

Тут 5 і 6 ліпеня пройдзе традыцыйны фэст – святкаванне ўрачыстасцей Маці Божай Будслаўскай. Сёлета фэст незвычайны – юбілейны. Пра яго адметнасці расказаў кусташ Нацыянальнага санктуарыя Маці Божай у Будславе айцец **Віктар Бурлака**:

**– Якая асаблівасць сёлетняга фэсту?**

– Сёлета адзначаем юбілей – 400-годдзе прысутнасці цудатворнага абраза Маці Божай у Будславе. У Вялікі чацвер 1613 года абраз быў прынесены ў гэтае месца.

**– Колькі сёлета чакаеце пілігрымаў?**

– Дзякуючы таму, што было шмат паведамленняў у сродках масавай інфармацыі, то іх будзе больш, чым у мінулыя гады. А тады было каля трыццаці тысяч.

**– Адкуль самыя далейшыя пешыя пілігрымкі?**

– Напэўна, з Баранавічаў.

**– Дзе будуць размяшчацца пілігрымы?**

– Як і раней, у намётавым гарадку на тэрыторыі колішняга аэрадрома.

**– Пілігрымы сёлета сустрэнуць касцёл абноўленым?**

– Так, шмат чаго зроблена. Сёлета аднавілі ганак, зрабілі гідраізаляцыю падмурка, новую адмостку, адвод дажджавой вады. Яшчэ раней замянілі дах, вокны, адрамантавалі фасад касцёла – усё гэта з фінансавай падтрымкай Мінскага аблвыканкама.

**– Значыць, рамонт зроблены амаль цалкам?**

– Звонку так.

**– Адкуль прыедуць госці на свята?**

– Запрошаныя біскупы, святары з Украіны, Літвы, Румыніі, Балгарыі, іншых краін, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, акрэдытаваныя ў Беларусі.

**– На фэст у Будслаў імкнуцца патрапіць не толькі каталікі, але і прадстаўнікі іншых канфесій...**

– Так. Наш касцёл адчынены для ўсіх, і абраз Маці Божай Будслаўскай чакае кожнага чалавека.

**– Асноўны момант урачыстасці, калі ён?**

– Гэта галоўная святая імша, якую ўзначаліць папскі легат, кардынал Жан-Луі Таран. Адбудзецца яна шостага ліпеня, а адзінаццатай гадзіне.

**– Айцец Віктар, а для вас што азначае будслаўскі фэст?**

– Гэта магчымасць кожнага чалавека прыйсці і дакрануцца да святыні Беларусі – да абраза Маці Божай Будслаўскай, якая 400 год збірае вернікаў на малітву.

**– Што можаце сказаць чытачам “Рэгіянальнай газеты” на развітанне?**

– Запрашаю ўсіх у Будслаў – тых, хто зможа прыйсці. А хто не зможа прыйсці цяпер – чакаем у іншы час. Будслаўская святыня заўсёды адчыненая...

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Будслаў-2013: план святочных мерапрыемстваў

**5 ЛІПЕНЯ, ПЯТНІЦА**

13.00-17.00 – сустрэча і прывітанне пілігрымаў кусташам санктуарыя
16.00 – прынясенне копіі абраза Маці Божай у Будслаў
17.45 – прынясенне рэліквій св. Тэрэзы з Лізьё (размяшчэнне на алтары)
18.00 – святая імша для пілігрымаў (алтар на сцэне)
20.30 – Марыйныя Нешпары (алтар на сцэне)
21.00 – Крыжовы паход вакол парку
22.30 – Акафіст у выкананні хору грэка-каталіцкай царквы (алтар на сцэне)
23.00 – рахунак сумлення (алтар на сцэне)
23.40 – падрыхтоўка да працэсіі
**Унясенне прадстаўнікамі чатырох дыяцэзій копіі абраза Маці Божай Будслаўскай, якая пілігрымавала па Беларусі**
24.00 – працэсія з копіяй абраза Маці Божай вакол парку, пасля — святая імша (алтар на сцэне)

**6 ЛІПЕНЯ, СУБОТА**

2.00 – адарацыя Найсвяцейшага сакраманту (праводзіць моладзь у касцёле)
2.00 – святая імша паводле грэка-каталіцкага абраду (алтар на сцэне)
2.00 – моладзевая праграма ў намётавым гарадку
5.30 – гадзінкі аб беззаганным зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі і заканчэнне адарацыі ў касцёле
6.00 – святая імша на польскай мове (цэлебруюць айцы бернардзіны ў касцёле)
7.30 –ружанец (алтар на сцэне)
9.00 – святая імша (алтар на сцэне)
**Уручэнне прызоў пераможцам конкурсу “Ave Maria” “Будслаў – прызнанне ў любові”**
11.00 – галоўная святая імша (алтар на сцэне). Выстаўленне Найсвяцейшага сакраманту. Эўхарыстычная працэсія з копіяй абраза Маці Божай Будслаўскай і рэліквіямі св. Тэрэзы. Акт прысвячэння Беларусі Беззаганнаму Сэрцу Марыі.

Пасля імшы адбудзецца гашэнне маркі, выдадзенай з нагоды будслаўскага юбілею.

*У праграме магчымы змены.*

## У Будслаў будуць курсіраваць дадатковыя цягнікі

Беларуская чыгунка прызначыла дадатковыя цягнікі для дастаўкі пілігрымаў на юбілейныя ўрачыстасці з нагоды 400-годдзя прабывання цудатворнага абраза Маці Божай у Нацыянальным санктуарыі ў Будславе. Урачыстасці пройдуць 5–6 ліпеня.

На 5 ліпеня прызначаны **дадатковы цягнік** рэгіянальных ліній эканомкласа **Маладзечна-Крулеўшчына**, які рушыць ад Маладзечна ў **16.50** і прыбудзе ў Будслаў у **18.16**. У зваротным кірунку пасажыраў будзе перавозіць дадатковы цягнік **Параф'янава-Маладзечна**, які адправіцца з Будслава 6 ліпеня ў **14.49** і прыбудзе ў Маладзечна ў **16.17.**

**Паводле catholic.by.**

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ НА МЯДЗЕЛЬШЧЫНЕ

## Якія асацыяцыі ў вас узнікаюць, калі чуеце пра Будслаў?



**Аляксандр Блузман, начальнік транспартнага аддзела:**

– Перш-наперш, гэта касцёл. Вялікая святыня – з усяго свету людзі туды прыязджаюць. А яшчэ асацыяцыя з сябрамі. Ёсць яны ў Будславе.



**Валянціна Худая, пенсіянерка.**

– Касцёл і цудатворны абраз Маці Божай Будслаўскай. На мінулым тыдні да нас у вёску Засвір правозілі копію гэтага абраза. Вернікі сустракалі яго на перакрыжаванні, працэсіяй неслі абраз у касцёл. Маліліся, прасілі ў Маці Божай, каб было ўсё добра ў сям'і, здароўя...



**Сяргей Малашонак, індывідуальны прадпрымальнік:**

– Адразу прыгадваю касцёл, фэст. Быў там некалі. Засталіся ўражанні нечага светлага, добрага. Уразіла тое, колькі людзей там збіраецца, і тое, які вялікі шлях праходзяць пілігрымы.



**Святлана Кайко, загадчыца раённай дзіцячай бібліятэкі:**

– З духоўнасцю, гісторыяй, культурай народа. З абразом, які 400 год у Будслаўскай святыні знаходзіцца. Асабліва для мяне гэта – часцінка веры. Калі пабываю на Будслаўскім фэсце, зусім па іншаму гляджу на свет. Хочацца быць дабрэйшай да людзей.



**Мікалай Даніленка, вадзіцель:**

– Фэст. Кожны год туды езджу. Праўда, не як пілігрым, а па рабоце – прадукты падвожу. Я ж вадзіцелем у райспажыўтаварыстве працую.



**Юлія Мілько, аператар ЭВМ:**

– Перш за ўсё Будслаў атаясамліваецца з касцёлам і ўрачыстасцямі напачатку ліпеня. Хто з Мінска, хто з Віцебска і іншых гарадоў пешшу святы ідзе. Гэта свята аб'ядноўвае людзей. І моладзі там шмат збіраецца.



**Святлана Блузман, прадавец:**

– У мяне асацыяцыі з гандлем. Бо і пазалетась там на выязным гандлі падчас фэсту працавалі, і цяпер збіраемся. І фэст, вядома, прыгадваецца – столькі людзей там збіраецца.

**Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.**

У ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# Прынады ад шаленства бяспечныя для людзей

**МАЛАДЗЕЧНА. У нумары 25 "РГ" пісала аб прынадах ад шаленства. У пачатку лета ветэрынарныя службы раскідваюць адмысловыя вакцыны над беларускімі лясамі, каб ўратаваць дзікіх жывёл ад хваробы.**

Але два тыдні таму прынады падалі над населеным пунктам – вёскай Шчукі ў Вілейскам раёне. Доктар-эпізаатолаг Вілейскай раённай ветстанцыі **Ганна Мандрык** запэўніла, што прынады цалкам бяспечныя для чалавека і дамашніх жывёл.

Пасля публікацыі ў рэдакцыю "РГ" пазваніў чытач. Ён расказаў, што ў іншай газеце чытаў іншую інфармацыю: маўляў, прынады лепей у рукі не браць і не даваць сабакам. І справядліва запытаўся: каму ж верыць у гэтай сітуацыі?

Карэспандэнтка "РГ" звярнулася з пытаннямі да Мікалая Малінца, які якраз даваў інфармацыю ў згаданай газеце.

**– Ці праўда, што прынады могуць несці небяспеку для чалавека?**

– Не, яны бяспечныя, бо робяцца з натуральных інгрэдыентаў. Але ў любым выпадку ў сярэдзіне знаходзіцца вакцына, таму ветэрынарныя службы абавязаныя былі папярэдзіць людзей. Пажадана, каб дзеці не бралі прынаду ў рукі, не гулялі з ёй. Але калі такое адбудзецца, з дзецьмі нічога не здарыцца.

**– Як наконт дамашніх жывёл?**

– Вакцына знаходзіцца ў спецыяльнай ампуле, якую можа раскусіць толькі дзікая жывёла. Вакол знаходзіцца прыкормка, нешта кшталту звычайнага сухога корму для сабак ці катоў. Звычайны кот і не з'есць саму вакцыну, а абгрызе падкормку вакол. Сабака можа з'есці, але ад гэтага будзе толькі плюс: жывёла атрымае вакцыну.

**– Ці былі на Маладзечаншчыне выпадкі, калі прынада падала на людзей?**

– Так, аднаму дзеду яна прыляцела ў двор. Я звязваўся з лётчыкам, які яе раскідваў. Ён патлумачыў, што самалёт ляціць на вялікай хуткасці, да зямлі прынада ляціць каля 10 секунд. Таму яе можа зносіць ветрам. Распаўсюджанне прынадаў праходзіць у межах праграмы Еўрапейскага Саюза. У ЕС ёсць наступнае патрабаванне: каб прынады раскідвалі як мага бліжэй да населеных пунктаў, літаральна за 5-10 метраў ад іх. Тады ахоп тэрыторыі будзе большы.

### Прынады надта дарагія, каб раскідваць іх над вёскамі

Пасля здарэння ў вёсцы Шчукі "Рэгіянальная газета" звярнулася з пытаннямі да **Анатоля Кротава**, дырэктара "Беллесавія". З самалётаў кампаніі, як нам паведамілі, раскідвалі прынады.

– Мерапрыемствы з прынадамі ад шаленства – гэта праект Еўрапейскага Саюза, – паведаміў спадар Анатоль. – Таму кіраўнікі праекта з ЕС самі выбіраюць, чые самалёты выкарыстоўваць. Сёлета мы не прайшлі адбору, хоць папярэднія два гады прынады раскідвалі з нашых самалётаў.

Цяпер для гэтага выкарыстоўваюць самалёты прыватнай авіякампаніі "Аэраінжынірынг".

"Беллесавія" ў сваю чаргу займаецца патруляваннем лясоў ад пажараў.

– Прыватнай кампаніі прыйдзецца адказваць за тое, што некаторыя прынады патрапілі не па месцы прызначэння, – дадае Анатоль Кротаў. – Яны каштуюць вельмі дорага, таму за кожную прынаду лётчыкі нясуць адказнасць.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

СПАДЧЫНА

# Камень "Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі" памяняў месца

**МАЛАДЗЕЧНА. Канчатковае рашэнне наконт далейшага лёсу помніка было прынятае ў панядзелак, 1 ліпеня.**

Валун раскалоўся на дзве часткі ў пятніцу, 28 чэрвеня, калі яго дэмантавалі. Помнік пераносілі з-за таго, што на рагу вуліц Машэрава і Вялікі Гасцінец плануюць зрабіць уезд на стадыён для пляжнага валейбола. Яго будаўніцтва ўжо пачалося ў парку.

Расколаты на дзве палавіны камень адрэстаўравалі і паставілі ў гарадскім парку Перамогі, недалёка ад помніка воінам-інтэрнацыяналістам.

– Рэстаўрацыя такога кшталту займае літаральна дзень-два, – паведаміў **Аляксандр Рамановіч**, кіраўнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама. – Таму да 3 ліпеня ўсе працы павінны скончыцца.

Камень "Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі" з'явіўся ў Маладзечне ў 1993 годзе дзякуючы намаганням колішняга старшыні райвыканкама **Генадзя Карпенкі**.

Валун з надпісам і выявай крыжа Еўфрасінні Полацкай асвечвалі падчас сумеснага малебну праваслаўнага, каталіцкага і ўніяцкага святароў. Гэта быў першы малебен такога кшталту на Беларусі.

Раней помнік знаходзіўся ў цэнтры горада, паміж Цэнтральнай плошчай і паркам Перамогі. Да яго традыцыйна прынасілі кветкі маладыя. Падчас падрыхтоўкі горада да "Дажынак" два гады таму камень перанеслі бліжэй да парку.

Цягам апошніх гадоў ён стаяў на рагу вуліц Машэрава і Вялікі Гасцінец.

### Пачаў іржавець з-за трэшчыны

У панядзелак у Маладзечна прыязджалі рэстаўратары з Заслаўя, якія кансультавалі мясцовых спецыялістаў. Адбітую частку каменя вярнулі на месца, прымацаваўшы спецыяльным растворам.

– На валуне была трэшчына, – заўважае спадар Аляксандр. – Ні ў каго не магло быць ніякай варварскай думкі, каб спецыяльна пашкодзіць камень. Ні ў якім разе! Калі верхняя частка адбілася, было відаць, што ўся паверхня валуна ў іржаўчыне. Таму камень дадаткова апрацавалі.

Была і думка наконт таго, каб зрабіць новы помнік замест расколатага. Але яе не падтрымалі – усё ж стары камень быў асвечаны, яго выгляд быў ужо знаёмы і родны для жыхароў горада.

### Стаў на "шляху памяці"

– У гаспадара ўсё павінна быць на сваім месцы, – кажа Аляксандр Рамановіч. – Так павінна быць і ў горадзе. У парку цяпер будуюць пляцоўку для пляжнага валейбола. Калі б мы пакінулі камень на тым жа месцы, гэта было б няправільна.

Камень ўвайшоў у так званы "шлях памяці", які праходзіць у гарадскім парку.

– У Маладзечне мы традыцыйна арганізоўваем шэсце на Дзень Незалежнасці, Дзень Перамогі, – кажа спадар Аляксандр. – Шэсце ідзе ля помніка воінам-інтэрнацыяналістам, помніка "Стэла" і завяршаецца на гарадскіх могілках ля брацкай магілы. Камень пакутнікам тут будзе дарэчы, да яго таксама будуць ускладаць кветкі падчас шэсцяў.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

| Курсы валют НБ РБ | 27.06 руб. | 4.07 руб. |
|---|---|---|
| **Долар ЗША** | 8 770,00 | **8 810,00** |
| **Еўра** | 11 460,00 | **11 510,00** |
| **Злоты** | 2 644,87 | **2 652,70** |
| **Літ** | 3 317,45 | **3 325,72** |
| **Расійскі рубель** | 266,50 | **267,50** |
| **Грыўня** | 1 077,33 | **1 080,98** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| **Долар ЗША** | 8720/8760 | **8825/8900** |
| **Еўра** | 11570/11650 | **11460/11600** |

Цэны на рынку (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 26.06 Цана руб. | 2.07 |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 115300 | **115800** |
| **Сасіскі**, 1 кг | - | **45900** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 48000 | **48000** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 83000 | **83000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 26000 | **25900** |
| **Шашлык, паўфабрыкат**, 1 кг | 54900 | **56000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23500 | **24000** |
| **Селядзец**, 1 кг | 28800 | **28800** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10100 | **10300** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9950 | **9900** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 8800 | **8900** |
| **Алей** | 14800 | **15300** |
| **Маянэз**, 200 г | 4800 | **4800** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7800 | **7800** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9300 | **9600** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 9000 | **8900** |
| **Капуста**, 1 кг | 6000 | **6000** |
| **Морква**, 1 кг | 15000 | **14500** |
| **Буракі**, 1 кг | 5000 | **5500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20000 | **23000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 15500 | **13000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 25000 | **25000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 15000 | **13000** |
| **Клубніцы, 1 кг** | 14000 | **14000** |
| **Чарэшня, 1 кг** | 36000 | **39000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 4500 | **7500** |
| **Перац**, 1 кг | 22000 | **19000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 26000 | **29000** |
| **Бананы**, 1 кг | 11500 | **11500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 12000 | **11000** |
| **Грушы**, 1 кг | 23000 | **22000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 60000 | **60000** |
| **Тварог**, 1 кг | 35000 | **35000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 15000 | **15000** |
| **Сала**, 1 кг | 55000 | **50000** |
| **Бульба маладая**, 1 кг | 10000 | **10000** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **50000** |

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

# Маніторынг выканання прадпрымальнікамі тэхрэгламенту пачнецца 1 лістапада

**БЕЛАРУСЬ. Маніторынг выканання прыватнымі прадпрымальнікамі тэхрэгламенту Мытнага саюза па таварах лёгкай прамысловасці пачнецца ў Беларусі 1 лістапада**

Пра гэта паведаміў першы намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па стандартызацыі Беларусі **Валеры Гурэвіч.**

– Ад 1 лістапада пачнецца выключна маніторынг таго, што прадаюць індывідуальныя прадпрымальнікі на рынку. Ён не прадугледжвае імгненных мер уздзеяння, а толькі збор неабходнай інфармацыі для міністэрстваў, каб прыняць рашэнне, ці трэба карэктаваць выдадзеныя раней пастановы ці прымаць дадатковыя дзеянні, – канстатаваў Валеры Гурэвіч.

Ён адзначыў, што гэта будзе дзейнічаць да 1 ліпеня 2014 года, калі канчаткова завершыцца пераходны перыяд, прадугледжаны тэхнічным рэгламентам Мытнага саюза на прадукцыю лёгкай прамысловасці.

– Затым прадпрымальнікі павінны будуць прыкласці ўсе намаганні, каб тая прадукцыя, якую яны прадаюць, адпавядала ўсім патрабаванням бяспекі, – сказаў першы намеснік старшыні Дзяржстандарту.

**Паводле БелТА.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Згвалціў, спужаўся і збег

**ВАЛОЖЫН. 21 сакавіка на комплексе "Сакаўшчына-Агра" Валожынскага раёна трое работнікаў, дзве жанчыны і мужчына, пілі падчас працы каля вёскі Буні.**

А 17 гадзіне жанчына пайшла дадому. Раптам пачула крокі за спіной. Не паспела азірнуцца, як ёй нехта накінуў хустку з яе галавы на вочы, сціснуў шыю і паваліў у снег.

Ад спіртнога ў Алега Ш. з'явілася моцнае сэксуальнае жаданне. Таму ён дагнаў жанчыну і стаў яе гвалціць.

Жанчына моцна спужалася за сваё жыццё, таму выконвала ўсе загады інтымнага характару. Па голасу маладзіца пазнала, што гэта быў Алег.

Усё адбывалася каля дарогі, таму праз некаторы час жанчына пачула шум аўтамабіля. У машыне двое мужчын вярталіся з рыбалкі. Яны ўбачылі каля дарогі мужчыну і жанчыну.

Гвалтаўнік спужаўся і пабег у бок лесу. Маладзіца пачала махаць рукамі, каб яны спыніліся. Падбегла да мужчын і ў істэрыцы паведаміла, што яе згвалцілі.

У той дзень, пасля неабходных працэдур у міліцыі, да мужа яна прыехала каля 23 гадзін.

Алег вярнуўся ў хату сваёй сужыцелькі каля 17.30. Ён быў вельмі ўзбуджаны, але жанчына спісала гэта на выпіўку.

Суд па гэтай справе адбыўся 19 чэрвеня.

Пацярпелая працуе на адным прадпрыемстве з цяперашняй сужыцелькай Алега, менавіта яна і была трэцяй на "застоллі" падчас працы.

Як лічыць пацярпелая, ніякай нагоды для інтымнай сувязі яна Алегу не давала.

На судзе абвінавачаны прызнаў сябе вінаватым, але ад тлумачэнняў адмовіўся. Ён пакараны на дзесяць гадоў турэмнага зняволення.

У свае 38 год мужчына атрымаў пятую судзімасць.

Яго судзілі за тое, што самавольна пакінуў месца службы, калі служыў у арміі. У 1999 годзе – за гвалт, наўмыснае нанясенне цяжкіх пашкоджанняў, угон, дробную кражу.

Вызваліўшыся па амністыі, праз паўгода ён зноў трапіў на лаўку падсудных. Яго яшчэ раз асудзілі за угон, кражу і згвалтаванне.

Пабыўшы год на свабодзе, Алег здзейсніў чарговае згвалтаванне.

**Андрэй ЖУКОЎСКІ,**
**памочнік пракурора Валожынскага раёна.**


Фота radiuscity.ru.

**Мужчына разам з пацярпелай пілі падчас працы.**

ВЫПАДКІ

## Рабочы загінуў падчас працы ў дзіцячым садку

**СМАРГОНЬ. Выпадак адбыўся два тыдні таму, 18 чэрвеня. Але дакладныя прычыны здарэння эксперты назавуць яшчэ праз некалькі тыдняў.**

Цяпер судмедэксперты высвятляюць прычыну смерці, а смаргонская міжраённая інспекцыя працы – прычыну няшчаснага выпадку.

На тэрыторыі дзіцячага садка быў пашкоджаны кабель, які належаў смаргонскай жыллёва-камунальнай гаспадарцы. Апошнія звярнуліся ў раённыя электрычныя сеткі, каб тыя вырашылі праблему.

Каля 16.30 18 чэрвеня чатыры рабочыя прыехалі ў садок і рамантавалі кабель у траншэі. Раптам аднаму з іх стала дрэнна. Калі прыехала "хуткая", ён яшчэ быў жывы, але ў бальніцы памёр.

Працавала брыгада каля агароджы дзіцячага садка. У гэты час на вуліцы нікога з дзяцей не было. Адзінымі сведкамі здарэння былі некаторыя выхавальнікі, якія штосьці бачылі праз акно.

Пакуль што здарэнне разглядаецца як "выпадак на вытворчасці". Але так гэта ці не, будзе вядома пазней, пасля праверкі.

Пра здарэнне расказаў старшы следчы маёр юстыцыі **Дзмітры Марозаў**.

**Настасся РОЎДА.**

СЛУЖБА 101

## Вартаўніца хлебазавода выратавала жылы дом

**ВІЛЕЙКА. У доме па вуліцы Інтэрнацыянальнай каля паловы другой ночы пачаўся пажар.**

МНС выклікала вартаўніца вілейскага хлебазавода. Жанчына якраз рабіла абход і ўбачыла дым, што ішоў з-пад даху дома, які стаіць насупраць праз дарогу.

Калі прыехалі выратавальнікі, трэцяя частка даху ўжо палыхала.

У час пажару ў доме нікога не было. Гаспадыня, пажылая жанчына, другі тыдзень ляжала ў раённай бальніцы.

У доме часам бывалі яе дзеці, для якіх ён служыць лецішчам.

Папярэдняя прычына здарэння – парушэнне эксплуатацыі электрапрыбораў: зламаны халадзільнік старога ўзору быў уключаны ў сетку.

Пра гэта расказаў інспектар інспекцыі дзяржпажнагляду **Дзмітры Кляшняк**.

**Настасся РОЎДА.**

ВАДА

## На Міншчыне тоне кожны 10-тысячны

**МАЛАДЗЕЧНА. У сераду, 26 чэрвеня, у Крыніцы патануў 17-гадовы хлопец.**

Ён вучыўся на другім курсе політэхнічнага каледжа. Прыехаў з Нясвіжскага раёна.

Хлопец быў на сажалцы каля Крыніцы, у якой купанне забароненае, разам з сябрам. Як потым распавёў сябар загінулага, яны разам купаліся, пасля Рамана схапіла сутарга. Яны былі цвярозыя, а Раман умеў плаваць.

Паведамленне на пульт МНС паступіла каля 16 гадзін.

Сёлета ў раёне ў вадзе загінула пяць чалавек, сярод іх трое – жыхары нашага раёна.

– І ўсе яны маладыя, да 30 гадоў, – адзначае старшыня грамадскага аб'яднання ў Маладзечне "Таварыства выратавання на водах" **Мікалай Паўлушаў**.

Звычайна людзі тонуць, калі купаюцца. Аднак сёлета здарылася і два нетыповыя выпадкі.

Першы выпадак адбыўся 15 чэрвеня ў Вязынцы. Кіроўца з'ехаў у канал на машыне і загінуў ад асфіксіі.

Другі – 12 мая ў Ласях. Двое жыхароў Чысці, якія нідзе не працуюць, хлопец і дзяўчына, паехалі да вадаёма. Быў позні вечар. Яны выпілі. Пачалі сварыцца. Хлопец некалькі разоў ударыў 22-гадовую дзяўчыну.

Ад удару яна звалілася ў ваду і захлынулася.

### Летась на Маладзечаншчыне патанулі мужчыны

Летась у раёне ў вадзе загінулі дзевяць чалавек, усе мужчыны 23-57 год. Пяцёра з іх нідзе і не працавалі, і не вучыліся. Як мінімум, шасцёра былі нецвярозыя. Сярод іх дваім не было і 30 год, пяцярым – 30-50 год, яшчэ дваім было за 50.

Сёлета трое тапельцаў былі нецвярозымі.

На 1 ліпеня ў Мінскай вобласці загінула 18 чалавек. Летась усяго ў Беларусі патанула 704 чалавекі, сярод іх 51 дзіця. На Міншчыне патанула 136 чалавек, з іх дзевяцера – дзеці.

Мікалай Паўлушаў паведаміў, што, паводле сярэдняй статыстыкі па вобласці, стабільна тоне адзін чалавек на дзесяць тысяч. Па рэспубліцы крыху іншая статыстыка: тоне дзевяць чалавек на сто тысяч.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

### Дзе часта тонуць людзі

Ёсць некалькі вадаёмаў, ДЗЕ ПАСТАЯННА ТОНУЦЬ ЛЮДЗІ. Прычым ва ўсіх іх купацца забаронена. Іх пералічыў старшыня грамадскага аб'яднання ў Маладзечне "Таварыства выратавання на водах":

– вадаём у Насілаве
– кар'ер каля Ізабеліна
– кар'ер у Мароськах
– канал Вілейска-Мінскай воднай сістэмы
– вадаём у Крыніцы.

## Ішоў з гасцей і захацеў пакупацца

**АШМЯНЫ. У пятніцу, 28 чэрвеня, раніцай, вадалазы выцягнулі цела 24-гадовага маладзёна, жыхара вёскі Наватворцы.**

– Гэта здарылася на вадасховішчы каля вёскі Альковічы Ашмянскага раёна, – кажа прэс-сакратар Гродзенскага ўпраўлення МНС **Наталля Жывалеўская**.

Па словах сябра загінулага, маладзён вярнуўся з гасцей, захацеў пакупацца. Нырнуў і больш не вынырнуў. Раніцай вадалазы дасталі яго цела з вады.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



КРЫМІНАЛ

## Жанчына ўкрала ў бабулі 6 мільёнаў рублёў

**МАЛАДЗЕЧНА. У сераду, 26 чэрвеня, днём, у 90-гадовай бабулі ўкралі грошы.**

Зайшла да яе на двор жанчына і прапанавала купіць посуд. Яны сталі таргавацца. Сышліся на 500 тысячах рублёў за набор.

Бабуля запрасіла жанчыну ў хату. Яна дастала грошы з пакеціка і адлічыла неабходную суму, пакецік паклала на ложак.

Жанчына схапіла гэты пакецік, у якім было 6 мільёнаў рублёў, і пабегла.

На вуліцы яе чакала чырвоная машына. Яна села ў яе і хуценька знікла.

Зладзейку пакуль не знайшлі.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Шукаюць сведкаў аварыі

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта шукае сведкаў і відавочцаў аварыі.**

Яна адбылася сёлета 27 мая каля 21.30 на 26 кіламетры дарогі Маладзечна–Смаргонь, паблізу вёскі Заскавічы, што на Маладзечаншчыне.

Кіроўца мікрааўтобуса "Фольксваген-Транспарцёр" (белага колеру, кузаў пасажырскі) збіў раварыста, які ехаў насустрач. Ён атрымаў цяжкія траўмы.

Просім усіх відавочцаў патэлефанаваць па нумарах: 8-029-7082995 альбо 8-0176-771089 з 9.00 да 18.00 у будныя дні следчаму **Віктару Вікенцьевічу Зяневічу**.

**Паводле інфармацыі Следчага камітэта.**

 



СВЯТЫ

# Маладыя журналісты адсвяткавалі выпускны

**МАЛАДЗЕЧНА. Галоўнымі героямі свята былі выпускнікі школак з шасці гарадоў Беларусі: Гродна, Брэста, Лунінца, Слуцка, Баранавічаў і Маладзечна.**

Уручэнне сертыфікатаў прайшло ў нядзелю, 30 чэрвеня, у Мінску.

Маладых журналістаў чакала выступленне гурта "Рэха", віншаванні ад беларускіх журналістаў з досведам, а таксама – доўгачаканыя вынікі конкурсу, які ладзіўся паміж навучэнцамі школак з шасці гарадоў. Прафесійнае журы, састаў якога да апошняга трымаўся ў сакрэце, абрала лепшых у чатырох намінацыях: "навіна", "рэпартаж", "інтэрв'ю" і "відэагісторыя".

Маладзечанская школа не засталася без узнагарод: **Наталля Тур** узяла першае месца ў жанры навін, **Аляксандра Парахня** – другое месца ў жанры рэпартажу. Маладыя журналісткі атрымалі за свае матэрыялы каштоўныя прызы.

Школы падрыхтавалі і свае прэзентацыі, з якімі выступалі перад публікай. Выступленні прыцягвалі ўвагу і тых, хто выпадкова апынуўся на гэтым месцы. Маладыя мамы з дзецьмі пачыналі танцаваць пад песні "Рэха", бабулі назіралі за выступленнямі з лавак.



Фота Ганны ФІЛСТОВІЧ.

**Навучэнкі школы падрыхтавалі выкладчыку самаробную кніжку з цытатамі… яго самога. Глеб Лабадзенка і маладыя журналісткі Аліна Лапцёнак з Маладзечна і Таццяна Уладыка з Вілейкі.**

Кожны з навучэнцаў атрымаў шкляны келіх з лагатыпам "Школа маладога журналіста 2013" і сертыфікат аб паспяховым заканчэнні навучання.

Школа маладога журналіста працавала пры "Рэгіянальнай газеце". Яе апекавалі журналісты і эксперты Беларускай асацыяцыі журналістаў. У Маладзечне школа працавала ўжо другі год запар.

Сваімі ведамі з навучэнцамі цягам двух гадоў дзяліўся журналіст **Глеб Лабадзенка**.

Навучэнкі маладзечанскай школы хочуць шчыра падзякаваць сваім выкладчыкам Глебу Лабадзенку і **Эдуарду Мельнікаву** за цікава і карысна праведзены год! А таксама "Рэгіянальнай газеце" за магчымасць пабачыць свае імёны на старонках выдання!

Спадзяёмся, што вы яшчэ неаднаразова сустрэнеце нашы імёны ў беларускіх газетах.

**Дар'я СПЕВАК,**
**навучэнка школы маладога журналіста.**

АДУКАЦЫЯ

## Тэставанне на ўсе 100!

**МАЛАДЗЕЧНА. ВАЛОЖЫН. Маладзечанец Яўген Цанцавіцкі здаў беларускую мову на 100 балаў.**

Выпускнік гімназіі-каледжа мастацтваў расказаў "РГ" пра свае ўражанні ад набраных балаў.

Калі Яўген убачыў свае вынікі, ён у прамым сэнсе пачаў скакаць ад шчасця.

– Для мяне гэта была вялікая нечаканасць, – кажа Яўген. – Я не разлічваў на такі высокі вынік. За мяне вельмі радаваліся мае сябры.

Хлопец праверыў свае вынікі, калі выйшаў з ЦТ па англійскай мове.

– У мяне быў вельмі добры рэпетытар, – кажа Яўген. – І за мае вынікі ёй вялікі дзякуй. Тым больш, што сёлета я заняў трэцяе месца на рэспубліканскай алімпіядзе па беларускай мове.

Яўген кажа: каб добра здаць беларускую мову, трэба рэгулярна паўтараць правілы, таму што ўсё з часам забываецца. Да таго ж, трэба кожны дзень штудзіраваць трэніровачныя тэсты.

– Шчыра кажучы, тэст быў не вельмі складаны, – кажа Яўген. – Я сумняваўся толькі ў некаторых пытаннях, а так ведаў амаль усё.

У хлопца не беларускамоўная сям'я. Яўген узмоцнена вывучаў беларускую мову толькі адзін год. І не разлічваў набраць 100 балаў, але і ніжэй за дзевяноста свае веды не ацэньваў.

Цяпер Яўген хоча паступіць у эканамічны ўніверсітэт на спецыяльнасць "бізнес-камунікацыі". Для гэтага ён здаў гісторыю Беларусі і англійскую мову, але пакуль невядома, наколькі балаў.

Усяго сёлета 100 балаў па беларускай мове атрымалі шэсць чалавек, двое з іх – маладзечанцы.

Сертыфікат з запаветнай "соткай" атрымае па беларускай мове і дзяўчына з валожынскай школы №2 **Дар'я Косік.**

Па рускай мове 100 балаў набрала **Таццяна Красоўская**, выпускніца гімназіі №1 горада Валожына.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

АФІЦЫЙНА

## Усталююць указальнік гарадоў-пабрацімаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Указальнік будзе знаходзіцца паміж будынкам Белтэлекама і Палацам культуры.**

– Ужо ўсталявалі металічную апору, – кажа загадчык аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі **Аляксандр Рамановіч**. – На заводзе металічных канструкцый ужо робяць 16 указальнікаў з назвамі гарадоў-пабрацімаў.

Акрамя назвы горада, будзе пазначана, колькі кіламетраў да гэтага месца.

Усталяваць указальнік трэба да шостага ліпеня, бо на Дзень горада прыедуць прадстаўнікі з гарадоў-пабрацімаў.

– Спачатку ён будзе не агароджаны, а крыху пазней мы яго добраўпарадкуем, – кажа спадар Аляксандр. – Выкладзем пліткай дарожку, каб людзі змаглі падысці і сфатаграфавацца ля ўказальніка.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**





 

ДА 68-ГОДДЗЯ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ

# “Слёзы ліліся ракой, стаяў плач дзяцей, чуліся пагрозы...”

## На канферэнцыі маладзечанка падзялілася ўспамінамі пра пачатак вайны ў рэгіёне



Фота забяспечана Лідзіяй КНЯЗЕВАЙ.

Ларыса Зінкевіч падзялілася з прысутнымі ўспамінамі з уласнага дзяцінства.

**МАЛАДЗЕЧНА. Памяці ваенных дзеянняў у горадзе была прысвечаная канферэнцыя “Гэты час нельга забыць”, якая прайшла ў СШ №5 на мінулым тыдні.**

У ёй удзельнічалі не толькі школьнікі, былыя вязні канцлагераў, настаўнікі, але і афіцэры, салдаты звыштэрміновай службы.

Распачаў канферэнцыю вучань 10 класа **Аляксандр Рухля**, які распавёў пра тое, як пачыналася вайна на маладзечанскай зямлі. Свае даследчыя працы прадставілі і іншыя прадстаўнікі клуба “Пошук”, які працуе ў школе ўжо шмат гадоў: **Карына Тышкевіч** “Акупацыйны рэжым на тэрыторыі Маладзечанскага раёна”, **Дар’я Жылінская** “Нашы землякі – удзельнікі баявых дзеянняў”.

Працу “Партызанскі рух на тэрыторыі Маладзечанскага раёна” прадставіў ваеннаслужачы **Андрэй Кавяза**. З цікавасцю слухачы сустрэлі паведамленне **Іллі Лабірко**.

Падсумавала выступленні **Наталля Мандрык** сваёй працай “Ёсць памяць, якой не будзе забыцця, і слава, якой не будзе канца”, дзе яна абагульніла ўсё тое, што было сказана на канферэнцыі, і расказала аб рабоце клуба “Пошук”.

Пасля канферэнцыі арганізатар мерапрыемства, кіраўнік клуба **Лідзія Князева** адзначыла:

– Усе гэтыя хлопцы і дзяўчаты – прадстаўнікі маладога пакалення, але яны ведаюць гісторыю, імкнуцца раскрыць усе яе таямніцы, знайсці праўду. Слухала я іх і ганарылася. Вось яна, наша змена, якая можа прыняць эстафету памяці. А значыць, будучыня ў надзейных руках!

### Вайна разбіла сем’і

Своеасаблівым урокам мужнасці быў аповед пра сваё дзяцінства былога вязня канцлагера, маладзечанкі **Ларысы Зінкевіч**.

Нарадзілася Ларыса Вітальеўна ў вёсцы Давыдава Віцебскай вобласці (раней Полацкая вобласць). Вёска была ў двух кіламетрах ад мяжы з Латвіяй.

– Як толькі пачалася вайна, бацька пайшоў на фронт, як і ўсе астатнія мужчыны. Жанчыны, маленькія дзеці засталіся ў вёсцы. Ёй на той час было тры гады, брат быў на два гады меншы. Можна ўявіць той жах, страх за жыццё сваіх дзяцей нашай маці.

У сакавіку 1943 года спалілі нашу вёску і ўсе навакольныя. У стайні пагранічнай заставы спалілі частку людзей, лёс якіх быў звязаны з партызанамі. Нас вывезлі ў Латвію, у мястэчка Стрэнчы. Там немцы забіралі дзяцей у маці. Зразумела, што ніводная не аддавала сваё дзіця, вакол слёзы ліліся ракой, стаяў плач дзяцей, чуліся пагрозы нямецкіх канваіраў. Немцы зганялі мацярок ў вагоны, сілай забіралі дзяцей у тых, хто не аддаваў. А жанчын накіроўвалі ў Ленінград для працы.

### Кроў беларускіх дзяцей ішла нямецкім салдатам

Усе дзеці знаходзіліся ў лагеры ў Саласпілсе. Пазней размяркоўвалі па двух лагерах – Саласпілс і Дубулды. Размеркаванне вялося па нейкіх асабістых крытэрыях нямецкага камандавання. У Саласпілсе ўмовы жыцця былі горшыя, многія паміралі. Справа ў тым, што ў дзяцей бралі кроў для нямецкіх шпіталяў. Тых, хто паміраў, проста закопвалі. У Дубулдах быў больш просты рэжым: нас там рыхтавалі для працы ў Германіі.

Нашай маці пашчасціла збегчы з Ленінграда, яна марыла знайсці сваіх дзяцей, быць разам з імі. Гэта ёй удалося. Разам мы паехалі ў Фрыдзберг. Там працавалі ў сельскай гаспадарцы. Памятаю, як дарослыя даілі кароў, а мы з маленькімі кубачкамі беглі туды, каб хоць нейкім чынам напоўніць свой страўнік, бо былі галодныя.

### “Вы цяпер вольныя”

У 1945 годзе часці Чырвонай Арміі ўступілі ў Германію. Памятаю стук у дзверы – моцна спужаліся, але гэта быў чырвонаармеец. Памятаю, як ён распытваў, хто мы, адкуль, чаму апынуліся тут. Выслухаўшы, сказаў: “Вы цяпер вольныя, савецкія войскі ўжо ў Германіі!” Гэта была самая шчаслівая навіна, якую толькі можна было пачуць.

У студзені 1945 года пачалі вяртацца на Радзіму. Ішлі праз Польшчу, Брэст-Літоўскі лагер. Нарэшце вярнуліся ў свае родныя мясціны. Быў ліпень, таму спачатку жылі ў будане. Памятаю тыя жахлівыя ночы, калі былі маланкі, гром, лівень. Моклі ў сваім жыллі ноччу, а днём выносілі сушыць усе рэчы. Калі пачала надыходзіць восень, пачалі будаваць зямлянку. Увосень вярнуўся мой бацька.

У першы клас пачала хадзіць у зямлянцы. Узгадваю той пах новых кніг, якія толькі прывезлі для нашай адукацыі. Скончыла сямігодку з пахвальным лістом, паступіла ў Полацкае педагагічнае вучылішча, скончыла яго з чырвоным дыпломам. Па размеркаванні паехала ў Браслаў, пасля таго, як адпрацавала, сяброўка пераманіла ў Маладзечна. Пасля завочна паступіла ў БДУ.

У 1997 годзе памерлі бацькі. Зараз шкадую, што не распытала ў сваіх бацькоў як мага больш пра вайну, хаця амаль усе іх размовы былі пра яе.

### “Дзякуючы школе маладзею душой”

Распавядаючы пра сваё сённяшняе жыццё, Ларыса Зінкевіч цёплымі словамі ўзгадвае Лідзію Князеву:

– Асабліва хачу падзякаваць ёй за арганізацыю цікавых мерапрыемстваў для нас, пажылых людзей. Пасля іх прыходзіш дадому памаладзелай, акрыленай. Сустрэчы заўсёды цёплыя, утульныя. Асабліва радуе тое, што цікавасць ёсць у маладых да гістарычнага мінулага, да вайны.

**Даведка “РГ”. Клуб “Пошук”** – цэнтр патрыятычнай работы СШ №5 у Маладзечне. Яго кіраўнік – Лідзія Князева, настаўніца рускай мовы і літаратуры.

У 1987 годзе яна пачала кіраваць клубам, дзе разам з удзельнікамі вывучае гісторыю Маладзечанскага краю, узнаўляе імёны вязняў “Шталага-342”. Пошукі вядуцца па лістах тых, хто звяртаецца ў клуб, архіўных матэрыялах, дакументальнай літаратуры. У 2009 годзе праект “Безыменным героям вернем імёны” удзельнічаў у міжнародным конкурсе праектаў нямецкага фонду “Памяць. Адказнасць. Будучыня” ў межах праграмы “Месца сустрэчы – дыялог”. Яе мэта – наладзіць дыялог паміж пакаленнямі, паміж мінулым і будучым, асэнсаваць гісторыю свайго краю. У маі 2010 года школа атрымала грант у міжнародным конкурсе. Перамога дала магчымасць больш разгарнуць сваю дзейнасць, актывізавала узаемасувязь паміж вучнямі і ветэранамі, дапамагла арганізаваць сустрэчы са сваякамі памерлых вязняў. У 2012 годзе клуб зноў атрымаў грант на працяг гэтага праекта.

**Галіна СІНІЦА.**

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **IVECO**, бартавы, тэнтаваны, да 4 т, 23 куб.м, усе віды загрузак, РБ, РФ. ІП Хруцкі А.П. УНП 691297090. Т. (8-033) 6666687, (8-029) 5777020.*
- Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 6403089, (8-029) 7787709.*
- МАЗ-МАН, грузапад'ёмнасць 20 тон, бартавы, кузаў 13,6х2,45. ІП Сыракваш А.А. УНП 691173984. Т. (8-029) 1329070, (8-033) 6477064.*
- Спрынтар максібаза, 1,5 т. ІП Рудкевіч І.В. УНП 690688776. Т. (8-029) 8648384.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Вядучы тамада, правядзенне вечароў, юбілеяў, вяселляў, вакалісты, шоў-праграма, баян,святламузыка, лазерна-дымавое афармленне, нядорага. ІП Кулікoвіч Т.І. УНП 691292974. Т. МТС (8-033) 3523507, Вэлком (8-029) 3242015.*
- **ДАХ, УЦЯПЛЕННЕ, АДДЗЕЛКА** ўнутраная, вонкавая. Вагонка. Сайдынг. Блок- хаўс. ІП Ходаль В.А. УНП 391074376. Т. (8-029) 9920647, (8-029) 8910834.*
- **ЗАТОЧКА ІНСТРУМЕНТУ**, ланцугоў бензапіл, дыскавых піл, свердлаў, нажовак па дрэве і г.д. Вул.Касманаўтаў 1-а, кіёск "Выраб ключоў". ПП "Майстарключ". УНП 190923089. Т. (8-029) 3731060, (8-029) 3811905.*
- Земляныя паслугі міні-экскаватара JCB 803 PLUS (траншэі, катлаван пад газ, водаправод, падмурак), глыбіня 2,7 м. ІП Матусевіч Ю.Н. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*
- **КОЛЬЦЫ КАЛОДЗЕЖАЎ. ТРАТУАРНАЯ ПЛІТКА. БАРДЗЮР. ВАДАСЦЁКАВЫЯ СІСТЭМЫ.** ТАА "Смаргоньпрамбуд". УНП 590846913. **Т. (8-029) 8689438.***
- Будаўнічыя работы (абліцоўка, сцяжкі, тынкаванне фасадаў). ІП Фалей Д.В. УНП 691288730. Т. (8-033) 3352254.*
- **РАМОНТ ТУРБІН.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 7639480, (8-044) 7639480.*
- Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, трамбовачныя машыны, бурэнне свідравін. ІП Кісель А.П. УНП 691507139. Т. (8-029) 1790000.*
- Распілоўка лесу з выездам да заказчыка (дошка, брус, кроквенная сістэма). ІП Гардзей А.У. УНП 591700580. Т. (8-029) 6141320, (8-029) 9439027.*
- Вырабім вароты (аткатныя, распашныя), агароджы, казыркі, летні душ, навесы, дэкаратыўныя мангалы. ПП "Сталь Хаус". УНП 691509981. Т. (8-029) 7682250, (8-044) 5843588.
- **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА. ГАРАНТЫЯ.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. (8-0176) 772328, (8-029) 2710273, (8-044) 5559347.*
- Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*
- **ТРАТУАРНАЯ ПЛІТКА**, борт тратуарны, накрыўка на слуп, балясіны, дэкаратыўны камень. У асартыменце. ІП Юрэвіч В.В. УНП 691505215. Т. (8-044) 7168663, (8-029) 8761382. *
- Кандыцыянеры – рамонт, запраўка, дыягностыка. ІП Усаў Д.А. УНП 691509489. Т. (8-029) 7042405.*
- МАЗ, самазвал, 10 т; пясок, жвір, ПГС, раствор, бетон, вываз смецця. ІП Сушко А.А. УНП 690690644. Т. (8-029) 3385358, (8-029) 7588449.*
- **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння (фігуркі з шарыкаў, мыльныя бурбалкі), выпускныя вечары і іншае. Вядучы на вяселле, карпаратывы, юбілеі. ІП Кананoвіч І.Е., УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692.*
- Праекціроўка прыватных 1- або 2-павярховых дамоў. ІП Фалей Д.В. УНП 691288730. Т. (8-033) 3352254.*
- **"COMPUTER HELP" – КАМП'ЮТАРНАЯ ДАПАМОГА.** Windows, Wi-Fi і іншае. Навучанне. Магчымы безнаяўны разлік. Выезд. ІП Кісялёў Р.А. УНП 691294341. Т. Вэлком **(8-044) 4714220**.
- Ацяпленне, устаноўка катлоў, мантаж сантэхабсталявання. ІП Ражкоў С.А. УНП 691507631. Т. (8-033) 3353199.*
- Выраб і рэалізацыя пенапласту 15-20-25-30 шчыльнасцяў. ІП Панічаў А.І. УНП 591802484. Т. (8-029) 9345433, Аляксандр, (8-029) 9971357, Вікторыя, (8-01592) 61135, пасля 18-00.

# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

**БУДМАТЭРЫЯЛЫ, САНТЭХНІКА**

- Арматуру дыяметрам 8, 10, 12. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 7737697 МТС.*
- Блокі газасілікатныя, пліты перакрыцця, ФБС. ЧП "ВоІлСтрой". УНП 591802229. Т. (8-044) 5500334, (8-029) 8669921.*
- Блокі газасілікатныя, наяўны і безнаяўны разлік. ІП Арлова О.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 6650413, (8-029) 7818704.*
- Блокі г/с, ФБС (падмуркавыя блокі, бетон, раствор, піламатэрыялы, цэгла, пліты перакрыцця, любая ф/а, дастаўка. ПП "Звездачот". УНП 691172990. Т. (8-029) 8774124.*
- Бэлька, брус, дошка, кроквенная сістэма, наяўны, безнаяўны разлік. ПВУП "Лебрус". УНП 691171555. Т. (8-029) 8629860, (8-033) 3522926.*
- Вугалок, трубу профільную, арматуру, сетку, гідраізаляцыю для фундамента, дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 3837697 Вэлком.*
- Слупы для агароджы, сетку-рабіцу. Т. (8-033) 6603068 МТС.*
- Шыфер, магу дапамагчы з дастаўкай, 183 лісты. Т. (8-029) 8837537.*
- Уцяпляльнік пена-бетонны, гандаль дарэчы. Т. (8-044) 5384277.*
- Самарэзы для металачарапіцы 3000 мм, зялёныя, 400 р. шт. Т. (8-029) 6434740.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Бетонамяшалкі, воданагравальнікі, помпы, бензакосы, бензапілы, зварачнікі, кампрэсары, генератары, камень 6,5 м/3. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Сайт 940.BY. Т. (8-029) 2599940.*
- Касілка сегментная да МТЗ. Т. Вэлком 1707186.*
- Кормазапарнік, новы, 60 л. Т. (8-029) 7696529.*
- Трактар б/у МТЗ 0,82 Смаргонь, з прычэпам і камплектам навяснога абсталявання; да МТЗ рамка навескі, цэнтральны вінт, раскосы. Т. Вэлком 6278076.
- Трактар самаробны; рухавік УД-25, бензін. Т. 1446391 Вэлком, у Маладзечне 732075.
- Газонакасілка (мінітрактар) МТД, новы, вытворчасць Германія, 6,2 КВт (бензін), травазборнік 240 л., нажы 92 см, КПП 6+3, старцер, кошт 22 000 000 руб. Т. Вэлком 6583370.
- Каса бензінавая, 3,5 КВТ. Т. (8-029) 6399324.
- Бензакаса, 160 у.а. Т. (8-033) 6034106.*
- Мінітрактар Т-10, які мае 2-гідраўлікі (перад-зад), 2-а ВОМА (перад-зад), лапата для чысткі снега, рухавік ск-Т2, бензінавы 2-х цыліндравы, усё працуе. Т. (8-029) 1338497, (8-01591) 23586.
- Станок гібачны "Тапко" фальцапракатны, гільяціна для вырабу вадасцёкавай сістэмы дымаходаў, вентыляцый і даборных элементаў. Т. (8-029) 9689645, (8-029) 5022391.

**Бытавая тэхніка**

- Банета халадзільная, новая, 2 м. Т. Вэлком 6278076. Касілка сегментная да МТЗ. Т. Вэлком 1707186.*
- Электрычны воданагравальнік, новы, праточнага тыпу, 100000 руб. Т. (8-01771) 68318, Вілейка.
- Пліта газавая Гефест ПГ 1200 С, новая, нядорага. Т. (8-029) 7588548, Маладзечна.*
- Халадзільнік "Атлант-6023", новы, ва ўпакоўцы, 3900 т. руб. Т. (8-029) 1861351.
- Машына пральнаяLG, б/у, 1900000 руб. Т. (8-033) 6322706.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ «ТРЫКАЛОР» - СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. **Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.***
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Абаненцкай платы няма! Растэрміноўка без працэнтаў. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. Т. (8-029) 7627898.*
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Высокая якасць адлюстравання. Гарантыя. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413.Т. (8-029) 3326779.*
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Кантроль якасці. Т. (8-029) 5702212.*
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Трыкалор. Т. (8-029) 9056393 Вэлком.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320, **www.literal.deal.by***
- **КАМП'ЮТАРЫ, НОЎТБУКІ,** нізкія цэны, крэдыт, растэрміноўка. Маладзечна, вул. Будаўнікоў, 15А (Дом быту). ІП Норка С.П. УНП 690305194. Тэл. (8-029) 7774642.*
- ТВ Samsung, 107 см, плазма, новы, з Германіі, нядорага. т. (8-029) 6575486.*
- Тэлевізар Toshiba вадкакрышталічны, 23 дзюймы, белы, абсалютна новы, 3 млн, дастаўлю. Т. (8-029) 9871181.

**МУЗІНСТРУМЕНТЫ**

- Баян, вытворчасць Тула, б/у, 50 у.а. Т. (8-029) 8719836.*

**МЭБЛЯ**

- Мэбля мяккая, сценка, спальня, прыхожая, усё б/у. Т. (8-0172) 562744, (8-029) 6888111.*
- Мяккі куток, б/у. Дзверы драўляныя ў залу, б/у. Т. Вэлком (8-029) 9281627.*
- Шафа, ложак, халадзільнік, усё б/у. Т. (8-029) 8853217 МТС.*

**ЖЫВЁЛА, ПТУШКА, ПЧОЛЫ**

- Шчаняты ёркшырскага тэр'ера ад тытулаванай выставачнай пары, акрас сталь з золатам, прышчэпкі, усе дакументы, Маладзечна. Т. (8-029) 5719668, (8-0176) 775759.*
- Каза, козачка, в'етнамскія парасяты. Т. (8-029) 7677829, Мядзел.
- Козы маладыя. Т. (8-029) 8725294. Вілейка.
- Пчолы з вуллямі. Т. (8-0176) 754196, Маладзечна.
- В'етнамскія парасяты, Маладзечна. Т. (8-029) 3264802, (8-029) 6297992.*
- Каза дойная, добрая, і маленькая козачка. Т. (8-01771) 33180, (8-029) 9813749.
- Кабыла рабочая, 7 год. Т. У Маладзечне 732565, МТС 5644195.
- Казляняты (трое) падгадаваныя, бязрогія. Т. (8-029) 6435089, (8-029) 2777576.
- Козачка і козлік, 4 мес. Т. (8-029) 9490456.
- Козы пасля 1 акоту, малако смачнае, без паху, і 5 мес. на развядзенне. Т. (8-01592) 95292, (8-029) 6406985.
- Сабачкі кітайскія чубатыя, голыя і пухоўкі. Т. (8-029) 3840623.
- Трусы, 3-месячныя, па 100000 р., Вілейка. Т. (8-029) 1279252, (8-029) 5587767.*
- Аддам кацянят у добрыя рукі, ручныя, прывучаныя да латка. Т. (8-029) 5587767, (8-029) 1279252.

**ІНШАЕ**

- Альтанкі, магчымы заказ кліента, Маладзечна. ПП "Майстарключ". УНП 190923089. Т. (8-029) 3811905.*
- Ровар дзіцячы (1-4 гады) прагулачны, 3 колы, б/у, нядорага. Т. (8-029) 2523210.
- Лодка, 110 у.а. Т. (8-033) 6034106.*
- Мёд, пасека ў Нарачанскім заказніку, 1 літр – 100 т.р., дастаўка па Вілейцы бясплатна. Т. (8-029) 1279252, (8-029) 5587767.*

## КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

- Арматуру, вугалок, дрот, сетку. Т. (8-029) 7737697.*
- Сетку арматурную для падлогі. Т. (8-029) 6575486.*

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

- Бензаінструмент (STIHL, Husqvarna). Т. (8-029) 5648002, (8-0176) 44212.*

**Бытавую тэхніку**

- **НЯСПРАЎНЫЯ ПЛАЗМЕННЫЯ І LCD ТЭЛЕВІЗАРЫ. Т. (8-029) 6434740.***

**Музінструменты**

- Гармонік. Т. у Валожыне 50870, Юрка.*
- Футарал для цэлай скрыпкі. Т. (8-029) 6927353.*

**Жывёлу**

- Галку. Т. (8-029) 5019550.*
- Каня, авечак, буйную рагатую жывёлу і іншыя віды дамашняй жывёлы, дорага. ІП Кеўра А.С. УНП 590818581. Т. (8-044) 4846590, (8-029) 3939256.*
- Кабана. Т. (8-029) 5690264.

**Антыкварыят**

- **АНТЫКВАРЫЯТ ЛЮБЫ! МАНЕТУ, МЕДАЛЬ, СТАТУЭТКУ. Т. (8-029) 7764214.***
- **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 765542, (8-029) 6564854.*
- **АНТЫКВАРЫЯТ. ДОРАГА!** Карціны, іконы, манеты, рублі СССР, статуэткі СССР, медалі, знакі, ордэны і інш. Т. МТС (8-029) 5586238.*
- **СТАРАЖЫТНЫЯ** карціны, іконы, манеты і іншае. Т. (8-029) 8719950.*
- **МАНЕТУ ДА 1940 г., МЕДАЛЬ, ФАРФОР, ОРДЭН І ІНШ.** Т. (8-029) 5744744.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Балон кіслародны, вуглекіслотны. Т. (8-029) 8466093.*
- Збожжа. Т. (8-029) 6435089, (8-029) 2777576.
- Медагонку. Т. МТС (8-029) 5549578.
- Палатку, гамак. Т. (8-029) 6028263.*

## ЗГУБЛЕНА

- Прапаў сабака пароды бостан-тэр'ер, мянушка Джэк, хлопчык, 5 год, акрас тыгровы, раён будаўніцтва новага мясакамбіната, узнагароджанне будзе. Т. (8-029) 5703990, Андрэй; (8-029) 9168158, Анатоль.

## ІНШАЕ

- Паважаныя бацькі! Запрашаем Вас **У АБНОЎЛЕНЫ МАГАЗІН ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ "МАРЫЯ-КІДС"**. Для вас – дзіцячыя ложкі "Bambini" (маятнік, скрыня, качалка), адзенне для дзяцей, канверты, камплекты на выпіску, пасцельныя прыналежнасці. Чакаем вас па адрасе: г.Вілейка, вул.17 Верасня, РКБА 2- і паверх, магазін "Марыя-Кідс".*
- 6 ліпеня запрашаем жыхароў і гасцей горада на "Маладзечанскае Купалле-2013", якое адбудзецца на востраве 1-га возера ў гарадскім парку. Пачатак у 20-00. ДУ "Палац культуры г. Маладзечна". УНП 690244105.

# ПРАЦА

## ШУКАЮ РАБОТУ

- Шукаю працу: якаснае аздабленне кватэр, дамоў, столі пад афарбоўку, шпаклёўка, шпалеры і г.д. ІП Скуратовіч С.С. УНП 691507287. Т. (8-029) 2501031.*
- Цясляр-сталяр шукае падпрацоўку: ламінат, лесвіцы, вагонка, гіпсакардон, блок-хаўс, сайдынг, падлога. Т. (8-029) 2620228, (8-029) 9382802.*
- Шукаю падпрацоўку: чыстка і афарбоўка шыферу. Т. (8-029) 2620228, (8-029) 9382802.*
- Шукаю працу муляра, досвед: бесер, клінкер, абліцовачная цэгла, агароджы, падмурак, перагародкі. Т. (8-029) 7695006.*

## ПАТРАБУЮЦЦА

- Патрабуюцца ў сетку кафэ ў Маладзечне: бармен, афіцыянты, повары. У Вілейцы: афіцыянты, сацпакет, высокая зарплата. УНП 690250951. Т. (8-0176) 760373 (з 09.00 да 17.00), (8-029) 5065230.*
- У салон сувязі патрабуецца прадавец-кансультант. Веданне камп'ютэрнай і мабільнай тэхнікі абавязковае. Заробак ад 2,5 млн. руб. Т. (8-029) 6186479. ПТУП "АйЦі Лайма", УНП 691297698. Т. (8-029) 6186479.*
- ЗП "Чысты свет плюс" тэрмінова патрабуецца прыбіральшчык службовых памяшканняў. УНП 191112518. Т. (8-044) 5807704, (8-033) 6019834.
- Рабочыя-касцы. Аплата дагаворная. ПУП "Салюр". УНП 691171527. Т. (8-029) 7031910.*
- Сядзелка, Вілейка. Т. (8-029) 8958386.

СВЯТЫ

# Купалле пройдзе ў парку Перамогі

**МАЛАДЗЕЧНА. Пачнецца святкаванне Дня горада са святочнага богаслужэння ў маладзечанскіх храмах, якое пачнецца а 8 гадзіне раніцы.**

У гэты ж час у парку Перамогі пройдзе свята рыбакоў "Лавіся, рыбка".

На плошчы Старое Места, ля скульптуры вестуну, адбудзецца тэатралізаваная кампазіцыя "Табе, мой горад, прысвячаем свята!". Гістарычныя персанажы-вестуны заклічуць і абвесцяць аб пачатку свята горада. Пачнецца мерапрыемства ў 10.30.

Там пройдзе і мястэчковы кірмаш, дзе можна будзе набыць сувеніры, паглядзець выступленні баяністаў-гарманістаў і прыпевачніц. На працягу ўсяго кірмашу вестуны і скамарохі створаць святочны настрой.

А 11 гадзіне раніцы на Старым Месце маладзечанцаў чакае выстава кулінарнага майстэрства прадстаўнікоў нацыянальных дыяспар "Кулінарныя дзівосы".

На ладдзі "Купідон" ў гарадскім парку пройдзе ўрачыстая цырымонія рэгістрацыі шлюбу "Савет ды любоў".

А восьмай гадзіне вечара пачнецца абрад "Маладзечанскае Купалле-2013". Сёлета яго перанеслі з Ушы ў парк Перамогі.

Завершыцца святкаванне Дня горада лазерным шоу, якое пройдзе ў гарадскім парку.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**


Архіў "РГ".

Сёлета папараць-кветку трэба шукаць у цэнтры горада.

ЗДАРЭННІ

## Гарэў хутар Шаблі на Валожыншчыне

**ВАЛОЖЫН.** Ноччу, 1 ліпеня, на хутары Шаблі ў вёсцы Малое Запруддзе здарыўся пажар. Месца вядомае тым, што там адбываюцца гучныя фэсты "Пікнік".

Пра тое, што гарыць дах дома, выратавальнікам паведамілі суседзі.

– Загарэўся другі паверх, – кажа старшы інжынер Валожынскага дзярпажнагляду **Віталь Маршалок**. – Мужчына паліў у печы і пакінуў яе без нагляду. З-за гэтага і пачаўся пажар.

Мужчына, які адзін жыве ў доме, не пацярпеў.

Мясцовыя жыхары расказалі "Рэгіянальнай газеце", што хутар значна пашкодзіўся ад гэтага пажару.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## 23-гадовы хлопец выратаваў чужое дзіця, але сам патануў

**АШМЯНЫ.** Трагедыя адбылася ў Ашмянскім раёне на вадаёме ў вёсцы Павішні.

На беразе адпачывала сям'я: мама, бацька і 10-гадовая дачка. Апынуўшыся ў нейкі момант без нагляду бацькоў, дзяўчынка адправілася ў ваду і стала тануць.

23-гадовы малады чалавек, які знаходзіўся побач, кінуўся яе ратаваць, выштурхнуў з вады бацькам, аднак сам не змог выбрацца на бераг.

Цела хлопца знайшлі ў 20 м ад берага.

**Паводле БелТА.**

## У хлопчыка нага захраснула ў батарэі

**МЯДЗЕЛ.** У вёсцы Сваткі Мядзельскага раёна 30 чэрвеня сямігадовы хлопчык засунуў нагу паміж рэбрамі ацяпляльнай батарэі. Выцягнуць яе не змог.

Мама дзіцяці патэлефанавала па нумар "101". Выклік паступіў каля 16 гадзін, паведаміў выканальнік абавязкаў начальніка райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Віктар Булыга.**

Пры дапамозе гідраўлічнага інструмента выратавальнікі пашырылі праём у батарэі і вызвалілі нагу. Дзіця не пацярпела.

**Аддзел інфармацыі.**

## На тушэнне павеці выехала пяць пажарных машын ды "хуткая". Куры паспелі ўцячы

**ВІЛЕЙКА.** Пажар адбыўся ўчора, 30 ліпеня, каля 16.30 у вёсцы Ерхі на Вілейшчыне.

Згарэлі дах павеці і ўсё сена, што было унутры. Таксама там сядзелі куры, але яны ўцяклі самі.

У МНС пазваніла гаспадыня павеці, якая жыве побач у доме разам з шасцю дзецьмі. У гэты час у доме было шмат гасцей.

Прычына пажару дакладна пакуль невядомая. Магчыма, ён адбыўся з-за курэння альбо гульняў дзяцей з агнём.

Пра здарэнне расказаў інспектар інспекцыі дзяржпажнагляду **Андрэй Балаж.**

**Настасся РОЎДА.**

## Мужчыну выратаваў ад смерці пажарны апавяшчальнік

**АШМЯНЫ.** У пятніцу, 28 чэрвеня, у аграгарадку Мураваная Ашмянка здарыўся пажар.

– Пра тое, што гарыць гарышча і дах дома, выратавальнікам паведаміла суседка, – кажа прэс-сакратар Гродзенскага ўпраўлення МНС **Наталля Жывалеўская.**

Цвярозы 44-гадовы мужчына спакойна спаў ў хаце. Скрозь сон ён пачуў сігнал апавяшчальніка. Падхапіўся ды выскачыў з хаты. Хуценька пабег да суседкі, каб яна выклікала выратавальнікаў.

У драўляным доме знішчаны дах і пашкоджаная маёмасць. Дом не прыдатны для далейшага пражывання.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Вартаўніца вілейскага хлебазавода выратавала жылы дом

**ВІЛЕЙКА.** У доме па вуліцы Інтэрнацыянальнай каля паловы другой ночы пачаўся пажар.

МНС выклікала вартаўніца вілейскага хлебазавода. Жанчына якраз рабіла абход і ўбачыла дым, што ішоў з-пад даху дома, які стаіць насупраць праз дарогу.

Калі прыехалі выратавальнікі, трэцяя частка даху ўжо палыхала.

У час пажару ў доме нікога не было. Гаспадыня, пажылая жанчына, другі тыдзень ляжала ў раённай бальніцы.

У доме часам бывалі яе дзецы, для якіх ён служыць лецішчам.

Папярэдняя прычына здарэння – парушэнне эксплуатацыі электрапрыбораў: зламаны халадзільнік старога ўзору быў уключаны ў сетку.

Пра гэта расказаў інспектар інспекцыі дзяржпажнагляду **Дзмітры Клешаняк.**

**Настасся РОЎДА.**

## У школе здарыўся пажар

**АШМЯНЫ.** У пятніцу, 28 чэрвеня, у Ашмянскай школе здарыўся пажар.

У школе знаходзілася 16 чалавек. Ніхто не пацярпеў. Усе яны самастойна выйшлі са школы да прыезду выратавальнікаў.

Пажар узнік у гаспадарчым памяшканні актавай залы. Агонь пашкодзіў сцэну, дэкарацыю, століь і парты.

Прычына пажару высвятляецца. Разглядаюцца дзве асноўныя версіі ўзнікнення пажару: парушэнне супрацьпажарных патрабаванняў (праводзіліся дахавыя работы з прымяненнем адкрытага агню) і кароткае замыканне электрычнай праводкі.

**Паводле 112.by**

АСОБЫ

# Нас было нямнога

## Успаміны Міхася Чарняўскага, якія ніколі не друкаваліся

*Працяг.
Пачатак у №10, 17.*

**МЯДЗЕЛ. 20 студзеня не стала Міхася Чарняўскага – гісторыка і археолага, аднаго з айцоў руху за незалежнасць.**

Ён адышоў без пары: яшчэ актыўна выкладаў ва ўніверсітэце, штолета праводзіў вялікія раскопкі. Анкалагічная хвароба, якую ён, здавалася, перамог, нечакана вярнулася. Прапануем успаміны гісторыка, запісаныя яго студэнтамі.

### Пазняк

З Зянонам пазнаёміўся ў 1962 годзе.

Паведамілі з Ваўкавыска, што знайшлі нейкія косткі з гаршком на дне шахты ў Красным Сяле, ну і трэба было забраць. Ехалі супрацоўнікі арггрупы па стварэнні гістарычнага музея, у іх аўтобус быў, і я як археолаг прымасціўся. Едзем, гаворым. Я гавару па-беларуску.

Бачу – малады хлопец сядзіць, вочы цёмныя такія, і на мяне так упарта глядзіць. Прыехалі, ходзім па тых шахтах, і ён да мяне загаворвае па-беларуску.

З таго часу адзін аднаго ведалі.

З Пазняком мы знайшлі магілу Каліноўцаў у Плябані.

Раз сядзім ля касцёла ў Красным. Нейкі дзядзька ідзе, разгаварыліся. А, кажа, ёсць побач, у Плябані, магіла мяцежнікаў. Прыходзім – дзікія кусты. Паляўнічым нажом прасякаў дарожку. Трапляем у цэнтр, на пагорак – бачым камень, паліраваны куб такі, з прозвішчамі: Бакшанскі, Ямант і высечанымі словамі Пілсудскага. Пры паляках, у 1920-я гады паставілі.

Мы пасля сталі там рабіць суботнікі. Увялі ў вушы раённаму начальству, што можна помнік паставіць.

Перад прыездам камісіі я спехам выкапаў яму і той камень кульнуў у яе – цытатай Пілсудскага ўніз. Каб пабачылі – збаяліся б ставіць помнік. А так прыцягнулі вайсковым цягачом вялізны валун, табліцу памятную павесілі – яе выдраў пасля хтосьці і скраў…

Магілы паўстанцаў – не рэдкасць у Беларусі. У Куранцы за Вілейкай ёсць, на поўначы Карэліцкага раёна, шмат дзе.

### Паддашак

Як трапіў на Паддашак, з Яўгенам Кулікам як пазнаёміўся – не памятаю.

Гэта яго была майстэрня насупраць КДБ. У яго збіраліся. Калі ўсё было спакойна, ён вывешваў белы ручнік на акно.

Як мы ідзём, а ручніка няма – значыць або чужы чалавек, або яго самога няма. Я нават і цяпер там іду і баюся падымаць вочы: а раптам вісіць ручнік? І што я тады буду рабіць?..

У Куліка можна было збірацца. У нас у інтэрнаце ніхто не жыў так, каб усе аднадумцы былі. Усюды былі некалькі чалавек, адзін-два, або нейтральныя, або тыя, якім не давяралі.

А ў Куліка вельмі многа людзей збіралася: Ермаловіч, Караткевіч, Свентахоўскі, Сокалаў-Кубай, Бора Мельнікаў …

Ён пісаў дзённік, у яго некалькі тамоў дзённікаў. Сказаў надрукаваць праз 40 гадоў пасля яго смерці. Яшчэ гадоў 20 чакаць. А ён увесь рух беларускі, усё, што было, запісваў.

### Акадэмічны асяродак

Ён быў сапраўды акадэмічны.

Мы збіралі кніжкі, шукалі, каму дапамагчы паступіць у ВНУ, ці некага загітаваць чыноўнікам стаць, ці некага прапхнуць у партыю.

Таго самага Каханоўскага цiснулі доўга, каб уступіў у партыю. Казалі, што дзеля Беларусі, бо няма іншага выйсця. Казалі, што ўсе літоўскія нацыяналісты – камуністы. Каханоўскі стаў дырэктарам музея, многа добрага зрабіў. Міхася Ткачова мы таксама доўга цiснулі, каб уступіў у партыю. Стаў выкладчыкам, загадчыкам кафедры, потым дырэктарам "Энцыклапедыі".

У Вільню ўвесь час ездзілі, куплялі там кнігі – столькі было беларускай літаратуры!

Я памятаю "Шляхам жыцця" Купалы, брашурка, штук 20, усе раздаў. Так раздаваў, што сабе не пакінуў ніводнай.

### Ткачоў палічыў правакатарам

З Міхасём Ткачовым пазнаёміліся на раскопках у Юдзінаве, пад Бранскам.

Раскопкі рабілі беларускія студэнты, бо гэта быў помнік, адкрыты Палікарповічам у 30-я – тады збіраліся рабіць 4-е ўзбуйненне Беларусі, далучыць Браншчыну і Смаленшчыну. Пакуль у Маскве разглядалі гэту праблему, туды хлынулі нашы навукоўцы: лінгвісты, географы, заолагі, археолагі. Палікарповіч адкрыў гэтую стаянку. У 1960-я гэта быў цалкам беларускамоўны рэгіён. Больш беларускамоўны, чым Беларусь.

Я год як скончыў інстытут, мне прыходзіць тэлеграма: Міша, прыязджай, можна паехаць у археалагічную экспедыцыю. Купляю білет да Старадуба і ўпершыню ў жыцці еду на цягніку.

На раскопках раптам да мяне звяртаецца высокі чарнявы хлопец і пачынае гаварыць па-беларуску – без акцэнту. А гэта вельмі важна. Бо, калі з акцэнтам – значыць стукач… І так мы пасябравалі з ходу. Ён з Мсціслава, "недасека", ведае гісторыю.

Мы разам лавілі ракаў, купаліся, з дзяўчатамі гулялі, бадзяліся па наваколлі, працавалі разам. Ну, найбольш, канешне, лавілі ракаў. О, як мы іх лавілі!

Пасля вярнуліся ў Мінск, ён прыйшоў раз да мяне ў інтэрнат, я паставіў на стол бутэльку гарэлкі і пачаў яму казаць: ты павінен вучыцца, вучыцца выдатна, каб заняць пасаду, мы мусім усё абсадзіць сваімі людзьмі. Ён глядзеў на мяне, акруглівшы вочы, потым развітаўся і збег хуценька.

І прапаў. Зусім прапаў. Толькі гады праз два сустрэліся, ён кажа: а я ж падумаў, што ты правакатар.

Дык я табе ў кішэню ціхенька тры рублі – цана бутэлькі гарэлкі – усунуў і збег.

### Жывец на вудзе ў рыбака

Бо хапала і правакатараў. Быў тады магазін "Дружба", кніжка краін народнай дэмакратыі, дзе зараз "Бульбяная", за фізкультурным інстытутам. Цудоўная літаратура і вельмі танная.

І вось я там нешта куплю, размаўляю з прадаўшчыцай па-беларуску. І тут да мяне падсуседжваецца хлопец, каранасты такі, марынарка ў яго, пад ёй цяльняшка, нібыта толькі ў марскім флоце служыў. "А што гэта вы тут цікавіцеся", – пытае па-беларуску. А я вось гэта хачу паглядзець, гэтым цікаўлюся, з войска толькі вярнуўся, а вы дзе?

Мы выходзім, ён па-беларуску гаворыць. Але я чую, што ён гаворыць з акцэнтам, значыць, ён дома не размаўляе па-беларуску, гэта не яго родная мова.

І ён кажа: слухайце, можа, вы ведаеце, кажуць, ёсць на Захадзе нейкая радыёстанцыя на беларускай мове. Я хачу, каб вы мне сказалі, што гэта за радыёстанцыя. Я кажу: ды няўжо! Як цікава!..

Ён мяне запрасіў дахаты, жыў ён недалёка ад могілак Усходніх. Вельмі харошая кватэра, багатая бібліятэка. Стаіць столік у куце, на ім «ЛіМа» стосік і вышываны ручнічок. Рытуальнае такое месца.



Фота vikingpan.livejournal.com

Міхась Чарняўскі.

Ён мне паказвае кнігі з аўтографамі Купалы, Чорнага, Чарота. Але выходзіць у іншы пакой і – чую – з дзецьмі па-расейску гаворыць.

Значыць, або ў цябе комплекс абсалютны, ты затурканы ў сям'і, або беларускае – гэта не тваё, гэта жывец на вудзе ў рыбака.

Адкуль у яго была бібліятэка беларуская? Яго бацька быў у КГБ галоўным бухгалтарам, пасля іншыя мне сказалі. Таму, калі канфіскоўвалі кніжкі рэпрэсаваных пісьменнікаў, ён выбіраў сабе лепшыя. Там што спальвалі, што разбіралі сабе.

У дадатак ён быў калекцыянер. Паехаў працаваць рэдактарам вілейскай раённай газеты. І ўсё там стварыў музей: абабраў Вілейскі, Маладзечанскі і Валожынскі раёны.

У тым ліку мэблю, што засталася ад Дуніна-Марцінкевіча. Дзе яна потым дзелася – хто яе ведае. Ездзіў з даведкай ад Вілейскага райкама партыі і забіраў рэчы ўнікальныя. Ніякага музея ён не стварыў. Потым працаваў адказным сакратаром у Беларускай Энцыклапедыі. Правакатар, стукач… Наколькі актыўна стукаў, я не ведаю.

Хоць да мяне добра ставіліся некаторыя агенты КГБ.

Напрыклад, у Інстытуце этнаграфіі адзін прызнаўся пад чаркай, што ён капітан ажно. Вельмі добра працаваў у этнаграфіі. Напісаў пару харошых кніжак, мяне прасіў заўсёды, каб я рэдагаваў іх. Яго прыслалі на месца іншага – той ніяк не мог здаць кандыдацкі мінімум па нямецкай мове – выкладчык Ліўшыц яму рэгулярна ставіў двойкі. Хоць цiснулі на Ліўшыца, але ён яму вышэй за двойку не паставіў. Дык таго забралі назад у КГБ, у форме пасля хадзіў і ўсіх нас дапытваў потым.

Ці адзін мой зямляк, з якім мы школьнікамі на гары ля Мікасецка далі клятву змагацца за Беларусь…

Яны студэнтамі стварылі "падпольны беларускі ўрад" – гулялі ў незалежную беларускую дзяржаву. КГБ гэта накрыла, павыключалі – і ў войска. А таго хлопца пакінулі.

Потым яго накіравалі ў закрыты інстытут. Ён таксама быў у нашым асяродку. Гаварыў пра незалежнасць. Хоць пра незалежнасць мала гаварылі.

Мы бачылі задачу ў тым, каб захаваць беларускі дух, спыніць дзікую русіфікацыю.

Потым, калі пачаўся наш разгром і нас паваганялі адусюль, яго накіравалі ў Германію, у навуковую камандзіроўку. У той час толькі народнага пісьменніка маглі пусціць – і то разам з кадэбістам. Тут ужо і вожыку зразумела, на каго ён працаваў. Яго падлавілі падчас разгрому "ўрада". Сказалі: вылеціш з універсітэта, пойдзеш у войска, пасля ў калгас. Ён крывёю здабыў сабе месца ва ўніверсітэце. Добра вучыўся ў школе, быў сірата – бацька загінуў на фронце, у зрэбным хадзіў, у рваным. Я яго не асуджаю.

На маім вяселлі ён стаў перад маёй жонкай на калені і сказаў: твой Міша такі патрыёт, я за яго на крыж пайду. Вось і пайшоў.

**Запісалі Паўліна Купрысь, Рыгор Шкурынаў. ("Наша ніва").**

**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

**5 ліпеня.** 75 гадоў з часу прыняцця (1938) Пастановы Прэзідыума ЦВК БССР аб стварэнні дзяржаўных архіваў Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай, Мінскай і Палескай абласцей.

***

**75 гадоў** назад (1938) створаны архіўныя ўпраўленні пры Мінскім, Магілёўскім, Гомельскім, Віцебскім і Палескім абласных выканаўчых камітэтах.

***

**75 гадоў** з часу прыняцця (1938) Пастановы Прэзідыума ЦВК БССР аб стварэнні Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва БССР (першапачаткова знаходзіўся ў Магілёве; з лістапада 1963 года – у Мінску; у 1992–1995 гадах – у складзе Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь; з 16 чэрвеня 1995 года – Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі).

***

**75 гадоў** з дня нараджэння Уладзіміра Машкова (1938–2000), беларускага пісьменніка.

***

**6 ліпеня.** Купалле.

***

**225 гадоў** з дня нараджэння Дамініка Манюшкі (1788–1848), асветніка, філантропа. Стрыечны брат кампазітара Станіслава Манюшкі. Пасля заканчэння Віленскага ўніверсітэта атрымаў вучоную ступень доктара права. Прымаў удзел у вайне 1812 года. Прымыкаў да масонскага руху: быў членам ложы "Паўночная паходня". Усё сваё жыццё прысвяціў паляпшэнню становішча сялян. Уласны маёнтак і зямельныя ўгоддзі ён аддаў у карыстанне сваім сялянам, пакінуўшы сабе толькі невялікі ўчастак. Кожны селянін атрымаў асобную сядзібу з ворнай зямлёй, лугам і дзялянкай лесу. У канцы жыцця пераехаў у Мінск, дзе і памёр. На яго магіле ў прадмесці Камароўкі пастаўлены помнік з надпісам: "Ад верных сялян і падданых". Паводле сведчання гісторыка Адама Кіркора, сяляне з Радкаўшчызны вылучаліся дасведчанасцю, сумленнасцю, працавітасцю, высокай маральнасцю і з вялікай павагай ставіліся да памяці Манюшкі.

***

**7 ліпеня.** 75 гадоў з часу выхаду (1938) Пастановы СНК БССР аб арганізацыі ў Мінску тэатральнага вучылішча (адкрытае 1 верасня 1938 года).

***

**8-10 ліпеня.** 20 гадоў назад (1993) у Мінску адбыўся І з'езд беларусаў свету, які прыняў дзевяць дакументаў-зваротаў і дэкларацый.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Рэгіён паменеў на 11 сельсаветаў і 1 пассавет

**У панядзелак уступілі ў сілу змяненні ў адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленні ў Мінскай вобласці.**

На тэрыторыі Мядзельскага, Вілейскага, Валожынскага і Маладзечанскага раёнаў скасаваныя 12 сельсаветаў. Свірскі пассавет пераўтварыўся ў сельскі Савет. Змяніліся межы некаторых райцэнтраў.

Тэкст гэтай публікацыі даецца паводле рашэння Мінскага абласнога савета дэпутатаў ад 28 мая 2013 года, зарэгістраванага ў Нацыянальным рэестры прававых актаў 25 чэрвеня 2013 года.

### Вілейскі раён

**Скасаваць адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі – Альковіцкі і Сцешыцкі сельсаветы Вілейскага раёна.**

6. **Змяніць межы:**

6.1. **Ільянскага** сельсавета Вілейскага раёна, уключыўшы ў яго склад тэрыторыю скасаванага Альковіцкага сельсавета з размешчанымі на ёй населенымі пунктамі;

6.2. **Касцяневіцкага** сельсавета Вілейскага раёна, уключыўшы ў яго склад частку тэрыторыі скасаванага Сцешыцкага сельсавета, у тым ліку населеныя пункты Бакунькі, Генеральчыкі, Дубраўка, Жары, Замошша, Паляны, Сцешыцы, Юдзеўшчына; выключыўшы з яго складу частку тэрыторыі, у тым ліку населеныя пункты Арпа, Валоські, Горнае, Гутараўшчына, Ерхі, Івашынавічы, Карэкаўцы, Лявонавічы, Альшэўцы, Асташкава, Сосенка;

6.3. **Куранецкага** сельсавета Вілейскага раёна, выключыўшы з яго складу частку тэрыторыі, у тым ліку населеныя пункты Балашы, Варонічы, Гарадзілавічы, Грыгаркі, Губы, Дашкаўка, Жуковічы, Катлоўцы, Куляшы, Малькевічы, Навікі, Асавец, Путрычы, Рэчкі, Стражы, Усцінавічы;

6.4. **Рабунскага** сельсавета Вілейскага раёна, уключыўшы ў яго склад частку тэрыторыі, выключанай са складу Касцяневіцкага сельсавета, у тым ліку населеныя пункты Арпа, Валоські, Горнае, Гутараўшчына, Ерхі, Івашынавічы, Карэкаўцы, Лявонавічы, Альшэўцы, Асташкава, Сосенка і частку тэрыторыі, выключанай са складу Куранецкага сельсавета, у тым ліку населеныя пункты Балашы, Варонічы, Гарадзілавічы, Грыгаркі, Губы, Дашкаўка, Жуковічы, Катлоўцы, Куляшы, Малькевічы, Навікі, Асавец, Путрычы, Рэчкі, Стражы, Усцінавічы;

6.5. **Даўгінаўскага** сельсавета Вілейскага раёна, уключыўшы ў яго склад частку тэрыторыі скасаванага Сцешыцкага сельсавета, у тым ліку населеныя пункты Аношкі, Грышкавічы, Жызнава, Камена, Крывазнакі, Пагост, Стахі;

6.6. **Любанскага** сельсавета Вілейскага раёна, выключыўшы з яго складу частку тэрыторыі, у тым ліку населены пункт Порса у межах вуліц і завулкаў: Жалігоўскага (дамы № 5, 7, 9, 11, 13 , 15, 17, 19–24, 26); Любанская (дамы № 1–16, 18); Сельская (дамы № 1–6, 6 а , 8, 10, 12); Крынічны (дамы № 1, 1 а , 2, 4, 6, 8, 10); 1-ы Сельскі (дамы № 1, 3, 5, 7); 2-і Сельскі (дамы № 2, 4, 6, 8);

6.7. **горада Вілейкі** Вілейскага раёна, уключыўшы ў яго склад частку тэрыторыі, выключанай са складу Любанскага сельсавета, у тым ліку населены пункт Порса у межах вуліц і завулкаў: Жалігоўскага (дамы № 5, 7, 9, 11, 13 , 15, 17, 19–24, 26); Любанская (дамы № 1–16, 18); Сельская (дамы № 1–6, 6 а , 8, 10, 12); Крынічны (дамы № 1, 1 а , 2, 4, 6, 8, 10); 1-ы Сельскі (дамы № 1, 3, 5, 7); 2-і Сельскі (дамы № 2, 4, 6, 8).

7. **Перайменаваць**:

7.1. **Касцяневіцкі** сельсавет Вілейскага раёна ў сельсавет **Людвіноўскі** (на рускай мове – Людвиновский) з адміністрацыйным цэнтрам аграгарадок Людвінова;

7.2. **Рабунскі** сельсавет Вілейскага раёна ў сельсавет **Крывасельскі** (на рускай мове – Кривосельский) з адміністрацыйным цэнтрам аграгарадок Крывое Сяло.

### Валожынскі раён

**Скасаваць адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі – Багданаўскі, Залескі, Пральніцкі, Сакаўшчынскі, Узбалацкі і Яршэвіцкі сельсаветы Валожынскага раёна.**

9. **Змяніць межы**:

9.1. **Вішнеўскага** сельсавета Валожынскага раёна, уключыўшы ў яго склад тэрыторыю скасаванага Багданаўскага сельсавета з размешчанымі на ёй населенымі пунктамі і частку тэрыторыі скасаванага Сакаўшчынскага сельсавета, у тым ліку населеныя пункты Адамова, Барок, Запур'е, Каліварыя, Кібы, Клімы, Няровы, Савічы, Слайкоўшчына;

9.2. **Дорскага** сельсавета Валожынскага раёна, уключыўшы ў яго склад частку тэрыторыі скасаванага Яршэвіцкага сельсавета, у тым ліку населеныя пункты Ануліна, Бакшты, Вербаўцы, Гляі, Дварэц, Даўгулі, Ясьманаўцы, Кудзеўцы, Мажулева, Навасёлкі Есьманоўскія, Сазонаўшчына, Сарокі, Ядзейкі; выключыўшы з яго складу частку тэрыторыі, у тым ліку населены пункт Родзеўшчына;

9.3. **Валожынскага** сельсавета Валожынскага раёна, уключыўшы ў яго склад тэрыторыю скасаванага Узбалацкага сельсавета з размешчанымі на ёй населенымі пунктамі і частку тэрыторыі скасаванага Сакаўшчынскага сельсавета, у тым ліку населеныя пункты Сакаўшчына, Бартэніха, Бомбалы, Баркі Нізавыя, Буні, Вялец, Жураўцы, Замасцяны, Кражына, Крыніца, Нямоні, Навасёлкі, Петрашунцы, Падкаліна, Пруднікі, Стайкі, Чартавічы, і частку тэрыторыі, выключанай са складу Дорскага сельсавета, у тым ліку населены пункт Родзеўшчына;

9.4. **Івянецкага** сельсавета Валожынскага раёна, уключыўшы ў яго склад тэрыторыю скасаванага Пральніцкага сельсавета з размешчанымі на ёй населенымі пунктамі;

9.5. **Пяршайскага** сельсавета Валожынскага раёна, уключыўшы ў яго склад тэрыторыю скасаванага Яршэвіцкага сельсавета, у тым ліку населеныя пункты Адамаўцы, Вялікае Поле, Дружычы, Зарэчча, Кіявец, Кісялі, Крапіўнікі, Лапінцы, Люціна, Манькаўшчына, Навасёлкі, Пятровічы, Сульжычы, Сушы, Цішкаўшчына, Харужы, Яршэвічы;

9.6. **Ракаўскага** сельсавета Валожынскага раёна, уключыўшы ў яго склад тэрыторыю скасаванага Залескага сельсавета з размешчанымі на ёй населенымі пунктамі і частку тэрыторыі скасаванага Яршэвіцкага сельсавета, у тым ліку населены пункт Навіны.

### Маладзечанскі раён

**Скасаваць адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі – Граніцкі і Хоўхлаўскі сельсаветы Маладзечанскага раёна.**

25. **Змяніць межы**:

25.1. **Радашковіцкага** сельсавета Маладзечанскага раёна, уключыўшы ў яго склад тэрыторыю скасаванага Граніцкага сельсавета з размешчанымі на ёй населенымі пунктамі;

25.2. **Гарадоцкага** сельсавета Маладзечанскага раёна, уключыўшы ў яго склад частку тэрыторыі скасаванага Хоўхлаўскага сельсавета, у тым ліку населеныя пункты Бабры, Ваўчкі, Дровашы, Дарахі, Дзяразкі, Ермакі, Каменшчына, Чырвонаармейская, Куляшы, Пранчэйкава, Селеўцы, Чэрнева, Чэрнеўшчына, Шалыгі;

25.3. **Красненскага** сельсавета Маладзечанскага раёна, выключыўшы з яго складу частку тэрыторыі, у тым ліку населены пункт Раёўка;

25.4. **Чысцінскага** сельсавета Маладзечанскага раёна, уключыўшы ў яго склад частку тэрыторыі, выключанай са складу Красненскага сельсавета, у тым ліку населены пункт Раёўка;

25.5. **Цюрлёўскага** сельсавета Маладзечанскага раёна, выключыўшы з яго складу частку тэрыторыі, у тым ліку населеныя пункты Рагазы, Адамавічы, Гаравіны, Мыслевічы, Шнуры;

25.6. **Мясоцкага** сельсавета Маладзечанскага раёна, уключыўшы ў яго склад частку тэрыторыі, выключанай са складу Цюрлёўскага сельсавета, у тым ліку населены пункт Шнуры;

25.7. **Хажоўскага** сельсавета Маладзечанскага раёна, уключыўшы ў яго склад частку тэрыторыі скасаванага Хоўхлаўскага сельсавета, у тым ліку населеныя пункты Бярозаўцы, Броды, Віткоўшчына, Задварцы, Кукава, Лучанскія, Мацукоўшчына, Абухаўшчына, Пекары, Сухапараўшчына, Хоўхлава, Чахі, Шарaі, і частку тэрыторыі, выключанай са складу Цюрлёўскага сельсавета, у тым ліку населеныя пункты Адамавічы, Гаравіны, Мыслевічы і Рагазы (у межах вуліц Будаўнікоў, Вольная, Купалаўская, Лугавая, Прыгарадная, Прыдарожная, Славянская);

25.8. **горада Маладзечна** Маладзечанскага раёна, уключыўшы ў яго склад частку тэрыторыі, выключанай са складу Цюрлёўскага сельсавета, у тым ліку населены пункт Рагазы (у межах вуліц Вясенняя, Усходняя, Мірная, Маладзечанская, Прыазёрная, Сонечная, Снежная).

### Мядзельскі раён

**Скасаваць адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі – Сырмежскі і Старагабскі сельсаветы Мядзельскага раёна.**

27. **Змяніць межы**:

27.1. **Занарацкага** сельсавета Мядзельскага раёна, уключыўшы ў яго склад тэрыторыю скасаванага Сырмежскага сельсавета з размешчанымі на ёй населенымі пунктамі;

27.2. **Слабадскога** сельсавета Мядзельскага раёна, уключыўшы ў яго склад тэрыторыю скасаванага Старагабскага сельсавета з размешчанымі на ёй населенымі пунктамі.

28. **Скасаваць Свірскі пассавет** Мядзельскага раёна. Утварыць сельсавет і надаць найменне "Свірскі" (на рускай мове – "Свирский").

**Аддзел інфармацыі паводле рашэння Мінскага абласнога савета дэпутатаў.**



МЕРАПРЫЕМСТВЫ

## Адбылося інтэлектуальнае шоу

**МАЛАДЗЕЧНА. 27 чэрвеня ў 16 гадзін у бібліятэцы імя Максіма Багдановіча адбылося інтэлектуальнае шоу "Маладзечна – мой родны горад".**

Напачатку быў праведзены экскурс у гісторыю горада. Вядучымі былі **Раіса Давідовіч** і **Марыя Ляцяга**.

Удзельнікаў падзялілі на дзве каманды. У "Ветэране" апынуліся старшыні ветэранскіх арганізацый, а ў камандзе "Кіраўнік" – былыя кіраўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў горада.

Сярод удзельнікаў была **Яўгенія Нікандрава** (працавала па рамонце тармазнога абсталявання), **Алена Садоўская** (працавала ў "Міжрайгазе"), **Вольга Радына** (былая старшая медыцынская сястра), **Нона Суворава** (былая выкладчыца хіміі і экалогіі), **Ніна Балебус** (былая выкладчыца рускай мовы і літаратуры), **Тамара Бычок** (працавала на швейнай фабрыцы). Задавалі пытанні адносна гісторыі горада, прадпрыемстваў, прадукцыі, якую яны выпускаюць. А таксама пра гістарычных асоб.

Перамагла каманда "Ветэран".

**Галіна СІНІЦА.**

■ ФУТБОЛ

# Капітан каманды паехаў на заробкі ў Маскву

**МАЛАДЗЕЧНА. Чарговы матч з камандай Кобрына скончыўся ўжо звыклым для маладзечанцаў паражэннем з лікам 0:3.**

Невыпадкова, што пытанні да кіраўніцтва клуба з'яўляюцца і пачуць адказы на іх шматлікім аматарам футбола хочацца.

Але галоўны трэнер па-ранейшаму ігнарує просьбы аб інтэрв'ю. Таму пытанні, на якія хацелася б пачуць адказ ад **Дзяніса Мятліцкага**, карэспандэнтка "РГ" вымушаная задаваць дырэктару клуба "Маладзечна – 2013 " **Аляксандру Любанцу**.



Фота Наталлі ТУР.

Яшчэ на мінулым матчы не было размоў пра тое, што гульцы разбягуцца з каманды.

**– Аляксандр, чарговае паражэнне. Што вы можаце сказаць?**

– А што тут гаварыць? Няма асноўнага саставу каманды.

**– А што з асноўным саставам? Хацелася б пачуць ад вас, чаму на поле не выходзяць вядучыя гульцы: Віталь Макрыцкі, Андрэй Шаблінскі, Сяргей Парфенчык, Юры Бугай?**

– Віталь Макрыцкі з'ехаў у Маскву на заробкі. Аляксандр Данілік і Дзяніс Жыліч, якія да таго ж гуляюць за "Іслач", у Італіі на зборах. А Парфенчык, Бугай і Шаблінскі былі вымушаныя прапускаць матчы з-за атрыманых чырвоных картак. Але ў бліжэйшым матчы яны ўжо выйдуць на поле.

**– Якая цяпер атмасфера ў камандзе? Як гульцы і кіраўніцтва ставяцца да таго, што на каманду пасыпалася столькі крытыкі?**

– Я не магу адказаць за ўсіх, але маральны настрой у каманды той яшчэ! Што датычыцца персанальна мяне, то я да гэтага стаўлюся нармальна. Разумею, што сачыць за камандай, якая толькі церпіць паражэнні, нікому не цікава. І многае з таго, што мы абяцалі гульцам на пачатку сезона, мы не выканалі.

**– Вы пра спонсарскую дапамогу?**

– Не толькі. Некаторыя гульцы ішлі ў каманду толькі з умовай выплаты ім прэміяльных, але так атрымалася, што "Беларусбанк" так і не выдзеліў нам абяцаных 200 мільёнаў рублёў. Таму мы гатовыя да таго, што некаторыя гульцы могуць сысці з каманды. Ужо цяпер ёсць такія, якія адмаўляюцца гуляць. А што датычыцца спонсарскай дапамогі, то яна ёсць ад "Маналітбуда", але падрабязнасці раскрываць пакуль не буду. Я ўжо апёкся з "Эціхадам" і "Беларусбанкам".

**– Што чуваць наконт дамовы з ДЮСШ? Яна будзе?**

– Я дасылаў ім два афіцыйныя лісты, на якія так і не атрымаў адказаў. Першы ліст быў з просьбай аб'яднаць, па магчымасці, нашы каманды. А другі тычыцца просьбы да ДЮСШа дапамагчы з гульцамі.

**– І не атрымалі адказаў нават у вуснай форме?**

– Дырэктар ДЮСШ патэлефанаваў мне. З гульцамі абяцаў дапамагчы, але, разумееце, выхаванцы ДЮСШ 1997-2000 года нараджэння. Таму пра іх, як пра гульцоў, не можа быць і размовы. Дапамога ДЮСШ разлічаная на некалькі гадоў наперад. Такіх гульцоў яшчэ трэба выхоўваць, гадаваць.

**– Я так зразумела, што рукі вы ўсё ж не апускаеце?**

– А чаго іх апускаць? Мы працуем і даволі адэкватна сябе ацэньваем. Мы ж разумеем, што, напрыклад, каб мы перамаглі ў Оршы тым саставам, які мелі, гэта б было сапраўднае дзіва! А ў гэту нядзелю на поле выйдуць і Парфенчык, і Шаблінскі, і Бугай, таму з камандай Віцебска мы яшчэ пазмагаемся!

**Наталля ТУР.**

■ ФУТБОЛ. КУБАК РЭГІЁНАЎ УЕФА

## "Іслач" вязе з Італіі бронзу

**МАЛАДЗЕЧНА. Упершыню ў гісторыі беларускага футбола беларуская каманда "Іслач", у якой бяруць удзел маладзечанцы, заняла трэцюю пазіцыю ў турнірнай табліцы групы "Б" па выніках гульні на восьмым Кубку рэгіёнаў УЕФА.**

Спаборніцтвы праходзілі ў Італіі.

У матчы са зборнай Балгарыі "Паўднёва-ўсходні рэгіён" адзіны гол забіў **Сяргей Лынько.** Выніковы лік 1:0 на карысць беларусаў.

Аднак расійская каманда "Алімп", якая прайграла "Іслачы" з лікам 1:0, прайграла і фаварытам групы, зборнай Іспаніі.

У выніку лідарамі групы стала іспанская каманда, срэбра ўзялі балгары, а бронзу – беларусы. Замыкае табліцу расійская каманда.

**Паводле uefa.com.**

■ НАВІНЫ

## "Смаргонь" прайграла расійскаму "Нафтахіміку"

**СМАРГОНЬ.** 29 чэрвеня ў Мінску футбольны клуб "Смаргонь" правёў таварыскі матч з расійскім клубам "Нафтахімік" (Ніжнякамск), паведамляе goals.by. Гэта каманда гуляе ў першынстве сярод камандаў футбольнай нацыянальнай лігі – другога дывізіёна прафесійнага футбола Расіі.

Смаргонцы саступілі з лікам 0:3.

Матч 11-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе "Іслач" – "Смаргонь", які павінны быў адбыцца ў гэтыя выхадныя, перанесены на 10 жніўня з-за выступлення "Іслачы" ў Кубку рэгіёнаў УЕФА.

## "Забудова-2007" разгромна прайграла

**МАЛАДЗЕЧНА.** У суботу, 29 чэрвеня, пачаліся гульні сёмага тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе. "Забудова-2007" з Чысці пацярпела разгромнае паражэнне ў гасцях ад "Зоркі-РФАЦ-Вікторыя" (Пухавіцкі раён) 0:5.

Матч паміж "Маладзечна-ДЮСШ-4" і ФК "Узда" перанесены.

## "Вілія" прапусціла тры галы

**ВІЛЕЙКА.** 30 чэрвеня ў чэмпіянаце Мінскай вобласці па футболе адбыўся матч "Вілія" – "Ліваадзія-Юні" (Дзяржынскі раён). Віляйчане саступілі з лікам 0:3. Пасля шасці гульняў віляйчане маюць толькі адно ачко.

## Перамога за Астраўцом

**АСТРАВЕЦ.** У Міхалішках 29 чэрвеня прайшоў футбольны турнір памяці **Мікалая Леўшына**, які настаўнічаў у мясцовай школе.

У ім прынялі ўдзел тры каманды: зборныя Міхалішак, Варнянаў і Астраўца.

Турнір праходзіў па кругавой сістэме, паведаміў загадчык фізкультурна-аздараўленчага цэнтра па месцы жыхарства Астраўца **Вадзім Лебядзевіч.**

Каманда Астраўца атрымала дзве перамогі і заняла першае месца. Прадстаўнікі Варнянаў абыгралі гаспадароў з лікам 3:2 і сталі другімі.

## Мядзяльчане асвойвалі карфбол і бочэ

**МЯДЗЕЛ.** У суботу, 29 чэрвеня, мядзяльчане маглі паспрабаваць свае сілы ў рэдкіх для Беларусі відах спорту: карфбол і бочэ. Знаёмілі з імі ўдзельнікі аўтамотаагітпрабегу Мінск – Мядзел.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Мядзяльчане вучацца гуляць у карфбол.**

Карфбол – спартыўная гульня, падобная да баскетбола. Асноўная мэта гульні – закінуць мяч, які мае параметры футбольнага, у кош. Ён размяшчаецца на жэрдцы на вышыні 3,5 метра. Паспрабавалі свае сілы ў карфболе многія юныя мядзяльчане. Дапамагаў ім асвойваць гульню прадстаўнік Беларускай федэрацыі карфбола.

Бочэ – спартыўная гульня на дакладнасць з даўняй гісторыяй. Створаная ў сваім цяперашнім абліччы ў Італіі. Ёсць шмат варыянтаў гэтай гульні.

Кожнаму боку даецца па чатыры металічныя шары, якія кідаюць па чарзе. Сутнасць гульні заключаецца ў тым, што трэба кінуць шар так, каб ён размясціўся як мага бліжэй да стартавага.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ МОТАПРАБЕГ

# "Байкеры – крутыя мужыкі і тоненькія цёці"

**МЯДЗЕЛ. Увечары 29 чэрвеня па горадзе калясілі байкеры. Яны прыехалі ў складзе аўтамотаагітпрабегу па маршруце Мінск-Мядзел.**

Падобныя прабегі ў Фрунзенскім раёне сталіцы ладзяць ужо ў шосты раз, прымеркаваўшы іх да розных святаў. Гэты праходзіў у рамках святкавання Дня моладзі пад дэвізам "Моладзь — за незалежнасць!".

Адразу ўдзельнікі прабегу спыніліся на ўездзе ў Мядзел: усклалі кветкі да брацкай магілы воінаў і партызан, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

А потым госці накіраваліся ў цэнтр горада – на плошчу Леніна. Наведнікі свята маглі паглядзець паказальныя выступленні авіямадэлістаў, а на возеры Мястра плавалі мадэлі параснікаў. Захапленне выклікала выступленне гіравікоў: хлопец і дзяўчына так жанглiравалі гірамі, нібыта гэта мячыкі.

Але найбольшую ўвагу, безумоўна, прыцягнулі байкеры – удзельнікі мотаклуба "Live to ride". Колькі мядзяльчан перафатаграфавалася каля іх матацыклаў — не злічыць! Кожны ўладальнік фотаапарата, мабільніка і нават планшэта лічыў абавязковым сфатаграфаваць сваіх нашчадкаў ці знаёмых ля магутных матацыклаў.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Усе ахвотныя маглі праехацца разам з сапраўднымі байкерамі.**

Купка хлопчыкаў год сямі ажыўлена абмяркоўвала відовішча.

— Тоўсценькіх цёцяў у байкеры не бяруць, — аўтарытэтна заяўлялі самы дасведчаны. — Толькі крутых мужыкоў і такіх тоненькіх цёцяў.

Дачакаліся ахвотныя моманту пракаціцца на байках – вядома, у якасці пасажыраў. І былі гэта не толькі дзеці ці дзяўчаты: і не зусім маладыя жанчыны рваліся пракаціцца з ветрыкам.

– Як уражанні, расказвай! – пыталіся знаёмыя ў адной з пасажырак.

– Ухх! – не хавала захаплення яна.

У гэты дзень былі яшчэ розныя спартыўныя спаборніцтвы. З канцэртам выступілі таленавітыя дзеці, якія адпачываюць у НДЦ "Зубраня".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Як зрабіць сваё жыццё шчаслівым

**МАЛАДЗЕЧНА. Натуральнае жаданне чалавека – быць шчаслівым. А для таго, каб быць шчаслівым, нам штосьці трэба. Камусьці – здароўе, іншаму – каханне, а некаму – добрая праца.**

Мы імкнёмся да шчасця, да таго, каб у нашым жыцці было менавіта тое, чаго нам хочацца. Але чаму так часта даводзіцца адчуваць расчараванне? Чаму ловім сябе на думцы, што жыццё нас падманула?

Уся справа ў нашых думках. Чым мацней мы чагосьці хочам, тым больш пра гэта думаем. Але як мы пра гэта думаем? Звычайна ў думках пераважае негатыў. Калі мы пачынаем новую справу, у якой шмат рызыкі, многа думаем, як бы не прагарэць, – і прагараем.

Калі пасля нешчаслівага досведу ў каханні мы думаем, як бы нас зноў не падманулі, – нас падманваюць. Калі мы ідзём у галалёдзіцу, толькі і думаючы, як бы не паваліцца, мы падаем.

Вось ён – закон прыцягнення ў жыцці.

**Мы атрымліваем ад жыцця менавіта тое, пра што думаем, а не тое, чаго хочам!**

Кожны з нас чуў, што думкі матэрыяльныя, але чамусьці мы так мала задумваемся, што ж гэта значыць. Думкі матэрыяльныя таму, што валодаюць энергіяй, якая прыцягвае ў жыццё менавіта тое, пра што вы так многа думалі. Дык ці варта крыўдзіцца на жыццё, якому мы самі гаспадары?

Мы ўспрымаем усё добрае, што здараецца з намі, як належнае, і глыбока не аналізуем гэта. Але як толькі ў наша жыццё прыходзіць штосьці дрэннае, то адразу пачынаем думаць: "За што гэта?", "Што цяпер рабіць?"

І чым больш нашы думкі круцяцца вакол негатыўных эмоцый, тым больш мы прыцягваем іншы негатыў. Ці не адсюль пайшлі прымаўкі: "Бяда не прыходзіць адна", "Прыйшла бяда – адчыняй вароты". Калі з чалавекам здараецца штосьці кепскае, то ён і далей накіраваны на дрэннае.

Таму зусім не дзіўна, што следам за буйнымі непрыемнасцямі на чалавека сыплюцца дробныя няўдачы. Тады кажуць, што вось яна, чорная паласа прыйшла. Гэта і ёсць дзеянне закона прыцягнення.

**Як узяць ад жыцця тое, што хочаш**

Калі ж вы хочаце прыцягнуць у сваё жыццё менавіта тое, чаго хочаце, варта ўвесь час кантраляваць свае думкі. Часцей думайце пра тое, чаго хочаце, надайце пазітыўным думкам энергію, і хутка падобнае прыцягне падобнае.

У той час, як вы злавілі сябе на тым, што думаеце пра дрэннае, пераключыцеся на добрае. Прыгадайце тое, што дорыць вам асалоду, намалюйце гэтую выяву ў сваім уяўленні і "ўключайце" яе штораз, як падумаеце пра штосьці дрэннае.



Фота demotivatorsblog.ru.

Мы самі ствараем свет, у якім жывём.

Падтрымлівайце зносіны з жыццярадаснымі людзьмі. Прывучыце сябе пачынаць раніцу з усмешкі. Вазьміце за звычку штодзень заўважаць тое добрае, што ёсць у вашым жыцці сёння. Навучыцеся быць удзячнымі за добрае.

**Цуды там, дзе ў іх вераць, і чым больш вераць, тым часцей яны здараюцца. *Дэні Дзідро.***
**Калі вы хочаце, каб жыццё вам усміхалася, падарыце яму спачатку добры настрой. *Бенядыкт Спіноза.***

У беларускай мове існуе часціца НЕ. Яна трымаецца адасоблена, з дзеясловамі пішацца асобна, азначае адмаўленне і ... наўпрост уплывае на наша жыццё, пазбаўляючы чалавека ўпэўненасці ва ўласных сілах.

Не ведаю, не магу, не атрымліваецца, не хачу, не разумею, не магу, не паеду, не скажу – вы часта на працягу дня закрываеце перад сабой дзверы, якія толькі што перад вамі расчыніліся. І гэтым адразаеце шлях да новага жыцця толькі адным сказам.

Кожнае НЕ – гэта ці шлях назад, ці таптанне на месцы, плюс сапсаваны настрой.

Паводле статыстыкі, 98% нашых перажыванняў не маюць падстаў, дык навошта пра гэта думаць! Ганіце прэч усе сумневы і сумныя думкі, нельга губляць на іх свой каштоўны час.

Жыццё поўнае цудоўных рэчаў, не варта яго атручваць. Не дазваляйце сабе маркоціцца і злавацца, бо ў гэты момант можа здарыцца штосьці добрае, а вы і не заўважыце.

Галоўнае – будзьце пазітыўным чалавекам і думайце пра добрае!

**Таццяна ЖДАНАВА,**
**псіхолаг Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага цэнтар сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | | | | | 5 | 8 | | 9 |
| 8 | | | | | | 4 | 3 | |
| | 2 | | | | | | | |
| | | 9 | 7 | | 6 | 1 | | |
| 5 | | | 2 | | 1 | | | 3 |
| | | 2 | 4 | | 8 | 5 | | |
| | | | | | | | 5 | |
| | 7 | 3 | | | | | | 8 |
| 1 | | 5 | 8 | | | | | 7 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | 6 | 4 | 1 | 7 | 5 | 8 | 2 | 9 |
| 8 | 5 | 7 | 9 | 6 | 2 | 4 | 3 | 1 |
| 9 | 2 | 1 | 3 | 8 | 4 | 6 | 7 | 5 |
| 4 | 3 | 9 | 7 | 5 | 6 | 1 | 8 | 2 |
| 5 | 8 | 6 | 2 | 9 | 1 | 7 | 4 | 3 |
| 7 | 1 | 2 | 4 | 3 | 8 | 5 | 9 | 6 |
| 2 | 9 | 8 | 6 | 1 | 7 | 3 | 5 | 4 |
| 6 | 7 | 3 | 5 | 4 | 9 | 2 | 1 | 8 |
| 1 | 4 | 5 | 8 | 2 | 3 | 9 | 6 | 7 |

РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, фэнтэзі **"Эпік"** (ЗША, 2013, без узроставых абмежаванняў)
5 ліпеня – у 19.00
6 ліпеня – у 14.00, 19.00
7 ліпеня – у 13.00, 21.00
8 і 9 ліпеня – у 19.00
10 ліпеня – у 17.00, 19.00
11 ліпеня – у 16.00, 21.00
Кошт білета – 22 000–25 000 рублёў.

Меладрама **"Вялікі Гэтсбі"**, 3D (ЗША, Аўстралія, 2013, 2 серыі, да 14 год прагляд у суправаджэнні бацькоў ці педагога)
5 ліпеня – у 16.00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Фантастычны баявік **"Чалавек са сталі"**, 3D (ЗША, 2013, да 14 год прагляд у суправаджэнні бацькоў ці педагога)
5 ліпеня – у 21.00
6 ліпеня – у 16.00, 21.00
7 ліпеня – у 15.00, 18.00
8-10 ліпеня – у 21.00
11 ліпеня – у 18.00
Кошт білета – 35 000–40 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыйныя прыгоды **"Блэкі ляціць на Месяц"** (Іспанія, Італія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
5 ліпеня – у 17.30
6, 7 ліпеня – у 15.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Прыгоды **"Кон-Цікі"** (Вялікабрытанія, 2012)
5-7 ліпеня – у 19.30
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды **"Ку! Кін-дза-дза"** (Расія, 2012)
6, 7 ліпеня – у 17.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Сямейны фільм, прыгоды **"Тэд Джонс і закінуты горад"** (Іспанія, 2012, без узроставых абмежаванняў)
9-11 ліпеня – у 17.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Анімацыя, фэнтэзі, камедыя **"Як прыручыць зомбі"** (Іспанія, 2012)
9-11 ліпеня – у 19.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Фантастыка, прыгоды **"Галодныя гульні"** (ЗША, 2012)
5-11 ліпеня – у 21.30
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

ГАРАСКОП
(5-11 ЛІПЕНЯ)



**Авен.** Вы праявіце сябе з лепшага боку, знойдзеце прымяненне свайм талентам. Шмат якія праблемы, якія хвалююць менавіта цяпер, вырашацца самі па сабе.



**Цялец.** Вам так захочацца камфорту, раскошы і задавальненняў. Сапраўды каралеўскі месяц, калі можна наладжваць урачыстасці і проста адпачываць з шыкам.



**Блізняты.** Выхадныя прысвяціце актыўнаму адпачынку, менавіта ён дасць пазітыўныя эмоцыі, у якіх вы так маеце патрэбу. Могуць узнікаць рознагалоссі з каханым чалавекам, але, каб пазбегнуць спрэчак, праявіце стрыманасць.



**Рак.** Вамі завалодае спакуса траціць грошы хаатычна, бяздумна і неэфектыўна.



**Леў.** Звярніце ўвагу на стан фінансавых спраў – прыйшоў час вырашыць, якія пакупкі зрабіць, а ад якіх адмовіцца. У складаных сітуацыях спадзявайцеся на ўласнае меркаванне, бо парады збоку толькі заблытаюць вас.



**Дзева.** Не прыдзірайцеся па дробязях да сваіх спадарожнікаў жыцця і не спяшайцеся ставіць крыж на вашых адносінах. Хутка ўсё наладзіцца, толькі дайце адзін аднаму час. А каб не раздражняцца па дробязях, ідзіце ў адпачынак.



**Шалі.** Звярайце свае "напалеонаўскія" планы з рэальным станам спраў і не патурайце сваёй "авантурнай жылцы".



**Скарпіён.** Смела развівайце творчую і прафесійную дзейнасць, вынік не прымусіць сябе чакаць. Але не забывайце пра родных і блізкіх.



**Стралец.** Пачатак любых спраў звязаны з вялікімі намаганнямі, трэба пазбавіцца ад ляноты і павярхоўнага падыходу, інакш усё акажацца пустым марнаваннем часу. На самы лепшы вынік можа разлічваць той, хто зойме пазіцыю лідара.



**Казярог.** Спрыяльныя ўсялякія кардынальныя перамены і новыя пачынанні. Бярыце шлюбы, авалодвайце новай спецыяльнасцю, шукайце новую работу.



**Вадалей.** На асабістым фронце добра было б узнавіць былыя адносіны і наладзіць перарваныя кантакты.



**Рыбы.** Не прыкладайце намаганняў, каб спадабацца чалавеку, які вам сімпатычны, – вядзіце сябе натуральна, гэтага будзе дастаткова.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт
erh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**


# Рэгіянальная газета


## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +18 +25 | | +18 +27 | | +18 +25 | | +17 +25 | |
| | 745 | ↖ 2 | 745 | ↘ 1 | 747 | ↘ 1 | 746 | ↗ 4 |
| Вільня | +16 +23 | | +18 +24 | | +16 +22 | | +13 +24 | |
| | 754 | ← 2 | 755 | ↘ 3 | 756 | ↘ 3 | 754 | → 5 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 4.48
Захад 21.47
Даўжыня дня 16.59

Усход 3.29
Захад 20.03
Квадра 1

**6 ліпеня, субота**

Віцебск +17 +25, 752, → 1
Гродна +17 +23, 754, ↘ 5
Мінск +18 +27, 745, ↘ 1
Магілёў +15 +27, 751, → 4
Гомель +19 +28, 755, ↘ 1
Брэст +18 +26, 754, ↓ 4

## ПРЫКМЕТЫ

- Калі на Іванаву ноч зорна, то будзе шмат грыбоў. Вялікая раса – да ўраджаю агуркоў.
- Мужыку лета, што святому рай.
- Калі год сухі – купляй пчолку, калі мокры – кароўку.

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ АСТРАЎЦА

Фота Юрыя ГОРЛАДА.

Лета! Складаць пазлы можна, седзячы проста на асфальце.

## Чытайце праз тыдзень:

- **На агародзе аднаго жыхара Ільі расце не толькі мята і кветкі, але і ... фігалісны гарбуз, амарант і нават божае дрэва.**

## УСМІХНІЦЕСЯ

### Самыя бязглуздыя кампліменты

Вы так добра выглядаеце! Трохі маладзей за свае пяцьдзясят!

***

Калі б не гэтыя чароўныя маршчынкі вакол вачэй, я не даў бы вам больш за 30!




Рэгіянальная газета
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 27 (949) 5.07.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 600. Падпісана ў друк у 10.00 4.07.2013.

**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.